



# Рэгіянальная газета

30 жніўня 2013 года
№ 35 (957)




http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".




Як японцы выказваюць сваё пачуцці праз посуд.

2-я старонка



Сутыкнуліся тры машыны. "Сітраэн Пікаса" разбіў агароджу парку.

4-я старонка

- **Дзесяць тон цэменту закамянела.** /3-я старонка.
- **Вашае дзіця ідзе ў школу? Не забудзьцеся псіхалагічна падтрымаць яго!** /5-я старонка.
- **Дапамагчы ўратаваць ласосяў можаце і вы** /21-я старонка.
- **Госці з 26 краін Еўропы едуць у Маладзечна.** /23-я старонка.

## навіны рэгіёна

### "Віллянін хутар" запрашае на сямейнае свята

**ВІЛЕЙКА.** Святочны вечар "Горад над Вяллёй" пройдзе 30 жніўня на Вілляніным хутары. А 17 гадзіне свята адкрые музычна-тэатралізаваная замалёўка "Тут будзе горад наш". Гасцей вечара чакаюць раённы сямейны конкурс творчасці, талентаў і традыцый "Ад пакалення да пакалення", а таксама гульнёвыя праграмы "Мястэчковыя забавы" і "Горад майго дзяцінства". Удзел прыме рыцарскі клуб "Паходня".

### Пачалася выстава мастака з Вільні Юрыя Герасімовіча

**МАЛАДЗЕЧНА**. Пасля Вілейкі з выставай карцін мастака з Вільні Юрыя Герасімовіча можна пазнаёміцца ў Маладзечне. Яна праходзіць у арт-краме "Багет" (непадалёк ад Лядовага палаца). На выставе дэманструюць нацюрморты, краявіды Вільні і Вілейшчыны (адсюль карані творцы). Працягнецца выстава да 15 верасня. Інтэрв'ю з мастаком "РГ" друкавала ў №33.

### Другія ў вобласці па сусветнай гісторыі

**МЯДЗЕЛ.** Найлепшыя вынікі на цэнтралізаваным тэставанні па сусветнай гісторыі паказалі выпускнікі ўстаноў адукацыі Мядзельскага раёна. Сярэдні бал мядзельскіх вучняў па гэтым прадмеце – другі ў Мінскай вобласці, паведаміла 27 жніўня начальнік аддзела адукацыі, спорту і турызму **Тацццяна Яфімава**. У выпускнікоў Мядзельшчыны сярэдні бал перавысіў 66, у той час як у сярэднім па Міншчыне ён каля 45-ці з паловай.

**Аддзел інфармацыі.**

# Беларускамоўны гарадскі 1-ы клас – толькі ў Ашмянах

**РЭГІЁН. Як стала вядома "РГ", сёлета гарадскія беларускамоўныя першыя класы з'явіліся ў нашым рэгіёне толькі ў Ашмянах.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ

Леташнія першакласнікі ў Маладзечне.

Звестак па Маладзечне пакуль няма. У Астраўцы адпаведных заявак ад бацькоў не было, а ў Смаргоні клас не сабралі.

Летась сітуацыя была такая: у той частцы нашага рэгіёна, што месціцца ў Мінскай вобласці, у гарадах усе школы былі рускамоўныя, а ў вёсках – беларускамоўныя. А на Ашмяншчыне, Астравеччыне і Смаргоншчыне беларускія класы былі і ў гарадах.

Міністэрства адукацыі паставіла патрабаванні: цяпер у першых і пятых класах павінна быць не менш за 24 чалавекі.

Калі ёсць недахоп вучняў, клас не збіраюць, а дзяцей расфарміроўваюць па іншых класах.

– Калі атрымліваецца, што ў адным класе 24 дзіцяці, а ў другім толькі 20, то трэба звярнуцца ў аддзел адукацыі мясцовага райвыканкама, – кажа дырэктар маладзечанскай сярэдняй школы № 5 **Яўген Макарэвіч**. – Кожная падобная сітуацыя разглядаецца асобна, але, хутчэй за ўсё, у такім выпадку дазволяць не аб'ядноўваць два класы ў адзін.

**СМАРГОНЬ.** – Раней мы маглі адкрыць клас, калі вучняў было і 18, і 19, – тлумачыць начальнік аддзела агульнай сярэдняй і дашкольнай адукацыі аддзела адукацыі **Іна Бацян**. – Цяпер жа такой магчымасці ў нас няма. Таму сёлета ў горадзе не сабралі беларускамоўны клас.

Тыя дзеці, якія летась пайшлі ў першы беларускамоўны клас, будуць працягваць навучанне на роднай мове.

У Смаргонскім раёне ўсе сельскія школы вядуць навучанне па-беларуску.

Сёлета зачыняць дзве школы – у Кушлянах і Шутавічах.

Рэарганізуюць два вучэбна-педагагічныя комплексы. Замест Бялкоўшчынскага комплексу яслі-сад-базавая школа будзе яслі-сад-пачатковая школа. Так адбудзецца і з Ракавецкім комплексам.

**АСТРАВЕЦ.** – На Астравеччыне дзяцей на беларускай мове навучаюць усе сельскія школы, – кажа намеснік начальніка аддзела адукацыі **Наталля Баніцэвіч**. – Выключэнне складае толькі Рымдзюнская школа з літоўскай мовай навучання.

Чыста беларускамоўных груп у садках Астраўца няма.

З першага верасня закрываецца базавая школа ў Тракеніках.

**АШМЯНЫ.** У 11-ці школах Ашмянскага раёна і ў дзіцячым інтэрнаце навучанне адбываецца па-беларуску.

– Што тычыцца горада, то ў школах існуюць беларускамоўныя класы для пачатковай школы, – кажа спецыяліст аддзела адукацыі Ашмянскага райвыканкама **Ганна Амбражэвіч**.

**ВІЛЕЙКА.** Паводле словаў метадыста аддзела адукацыі, спорту і турызму Вілейскага райвыканкама **Наталлі Пражэнік**, сельскія школьнікі навучаюцца на беларускай мове. Летась беларускамоўных школ было 20, але сёлета вырашылі рэарганізаваць Вязынскі вучэбна-педагагічны комплекс і пакінуць толькі садок.

Садкі на раёне таксама беларускамоўныя. А вось ў Вілейцы як у школах, так і ў садках дзеці навучаюцца на рускай мове.

**МЯДЗЕЛ.** – На Мядзельшчыне 11 сельскіх школ, – гаворыць намеснік начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму Мядзельскага райвыканкама **Святлана Кундра**. – Але не ўсе яны беларускамоўныя, напрыклад, у Свірскай школе навучанне праходзіць па-руску.

Шэсць садкоў з адзінаццаці ў Мядзеле і раёне маюць беларускамоўныя групы.

Сёлета на Мядзельшчыне зачыняюць Выгалавіцкую базавую школу.

**ВАЛОЖЫН.** Як расказала метадыст аддзела адукацыі Валожынскага райвыканкама **Святлана Кватkоўская**, усе гарадскія школы вядуць навучанне на рускай мове, а вясковыя – на беларускай.

З садкамі сітуацыя такая: з 63 дзіцячых груп – 28 цалкам беларускамоўныя.

**МАЛАДЗЕЧНА.** У Маладзечанскім аддзеле адукацыі звесткі пра беларускамоўныя першыя класы з'явяцца цягам першага тыдня верасня.

Сёлета рэарганізуюць Раёўскі вучэбна-педагагічны комплекс яслі-сад-сярэдняя школа. Застанецца дзіцячы садок.

У сельскіх установах дашкольнай адукацыі ёсць групы з беларускамоўным навучаннем, а вось ў горадзе такіх груп няма.

Як патлумачыла намеснік начальніка аддзела адукацыі Маладзечанскага райвыканкама **Соф'я Філістовіч**, каб дзіця вучылася ў беларускамоўным класе, бацькам трэба напісаць адпаведную заяву. Калі збярэцца клас, навучанне будуць весці па-беларуску.

**Вольга ЮРКЕВІЧ,**
**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

ТРАДЫЦЫІ

# Як японцы выказваюць пачуцці праз посуд


Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

Не ва ўсіх маладзечанцаў атрымалася карыстацца драўлянымі палачкамі.


Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

Казука Тацумі налівае чай беларускім гасцям.

**МАЛАДЗЕЧНА. А вы ведалі, што посуд, у якім гаспадыня падае чай, можа расказаць пра яе стаўленне да вас?**

Гэтым і іншымі сакрэтамі сапраўднай чайнай цырымоніі па-японску падзяліліся з маладзечанцамі госці з краіны ўзыходзячага сонца.

У сераду, 28 жніўня, у цэнтральнай раённай бібліятэцы яны ў невялікай інсцэніроўцы паказалі ўсім ахвотным традыцыі піцця чаю.

У Маладзечна завітала **Масако Тацумі**, дырэктар інфармацыйнага цэнтра японскай культуры ў Мінску. Разам з ёй прыехалі бацькі – **Казука** і **Ясуакі Тацумі**, а таксама дачка Юйэ. Паколькі мама **Юйэ** японка, а тата – беларус, яе імя у перакладзе з японскай значыць "чалавек, які яднае Беларусь і Японію".

Спачатку Масако Тацумі перадала бібліятэцы кнігі і часопісы на японскай мове і падарожны дапаможнік, які расказвае пра гісторыю і культуру краіны па-руску.

### П'юць з адной піялкі па чарзе

Японцы падчас цырымоніі п'юць чай, седзячы на каленях на спецыяльным дыванку, які называецца татамі. Перад тым, як на яго зайсці, трэба абавязкова зняць абутак.

Масако Тацумі расказала, што ў паўсядзённым жыцці японцы п'юць такі ж зялёны і чорны чай, як і беларусы. А вось для чайнай цырымоніі выкарыстоўваюць чайны парашок: яго заліваюць кіпнем і ўзбіваюць бамбукавым венчыкам.

Для вырабу чайнага парашку выкарыстоўваюць самыя маладыя лісточкі чаю. Іх высушваюць не на сонцы, каб захаваць зялёны колер, а потым здрабняюць.

Перад тым, як разліваць чай, гаспадыня працірае ўвесь посуд шаўковай хусткай.

Першы госць просіць прабачэння ў астатніх, што ім даводзіцца чакаць. Гаспадыня заварвае ў піялцы чай і падае яму. Ён выпівае ўвесь напой, выцірае рукой месца, адкуль піў і аддае посуд гаспадыні.

Тая мые піялку і заварвае новую порцыю ў ёй жа для другога госця. Так працягваецца, пакуль чай не пакаштуюць усе госці.

– Часам прыходзіць многа гасцей: можа і 20, і 30, на Новы год, напрыклад. Вядома, што цырымонія тады расцягваецца надоўга, – адзначыла Масако Тацумі.

### Маладзечанцы паўдзельнічалі ў японскай цырымоніі

Спачатку японская сям'я прадэманстравала цырымонію самастойна, а пасля запрасіла далучыцца ўсіх прысутных. На татамі прыселі і мужчыны, і жанчыны, і дзеці. Ахвотных пакаштаваць японскі чай не бракавала. Падчас чаяпіцця у гасцей з'яўляліся і пытанні да гаспадароў цырымоніі.

– Цяпер дзяцей вучаць гэтым традыцыям альбо ў спецыяльных установах, альбо ў гуртках пры звычайных школах, – адзначыла спадарыня Масако.

Да чаю падаюць невялікія слодычы, зробленыя з рысавай мукі і чырвоных бабоў. Іх трэба браць драўлянымі палачкамі.

Не ва ўсіх маладзечанцаў гэта атрымлівалася: некаторыя ўсё ж парушалі традыцыю і бралі слодычы рукамі.

– Слодычы вельмі-вельмі салодкія, а чай нібы канцэнтраваны, але смачны, – падзялілася ўражаннем **Тамара Дудзіч**, загадчыца сектара культуры аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Маладзечанскага райвыканкама.

У канцы цырымоніі госці дзякуюць гаспадыні і просяць дазволу разглядзець яе посуд.

Скрыначку для чаю і чайную лапатку, якой парашок насыпаюць у піялкі, госці асцярожна перадаюць адзін аднаму.

– Вядома, традыцыя разглядання посуду мае схаваны сэнс, – тлумачыць Масако Тацумі. – Звычайна японская гаспадыня мае шмат посуду. Тое, якія менавіта піялкі яна выбірае для гасцей, шмат гаворыць пра стаўленне да іх. Уважлівыя госці абавязкова звернуць на гэта ўвагу.

### Японку ўразіла беларуская вышыванка

Карэспандэнтка "РГ" звярнулася з пытаннем да Тацумі.

**– Вы ўжо шмат гадоў жывяце ў Беларусі. Ці было штосьці, што здзівіла вас у беларускай культуры ?**

– Так, мяне ўражваюць беларускія вышыўкі. Калі я першы раз пабачыла іх, то падумала, што гэта проста ручная работа. Пасля мне расказалі, што кожны ўзор мае схаваны сэнс, сваю гісторыю. Часам ўзор можа выкарыстоўвацца як абярэг. Таму сваім сябрам у Японію я адвезла ўжо вельмі шмат вышываных рэчаў, і ўсім тлумачу, што яны значаць.

**Аляксандра ПАРАХНЯ,**
**Зоя ХРУЦКАЯ.**
**Фота і відэа на сайце.**




ПЫТАЙЦЕСЯ – АДКАЗВАЕМ

## Заказвайце газ за два тыдні

**МАЛАДЗЕЧНА. Жыхарка горада Марыя паскардзілася, што ёй давялося некалькі дзён чакаць газавы балон:**

– Раней такога не было, ужо 30 год заказваю. На наступны дзень заўсёды прывозілі.

На пытанне адказала майстар па дастаўцы балонаў Маладзечнаміжрайгаза **Марына Дрозд:**

– Вельмі шмат заказаў. Я раю заказваць газ за 10-14 дзён. Жыхары могуць і самі перазаправіць балон у Плябані ці ў Маладзечне па адрасе Нагорная, 6. Летам заўсёды больш заказаў, бо актывізуюцца дачнікі.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

СЛУЖБА 101

## Пераехалі ў суседні дом

**ВАЛОЖЫН. Ноччу 26 жніўня загарэўся дом у вёсцы Забрэззе Гародзькаўскага сельсавета.**

Гарэў жылы драўляны дом, у якім жыў гаспадар – пенсіянер разам са сваім сынам.

Падчас пажару згарэў дах і дом выгараў знутры. Гаспадары не пацярпелі, ім для прапанавалі суседні дом. Прычыны пажару высвятляюцца, – гаворыць дыспетчар Валожынскага райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Кацярына Грынюк**.

**Наталля ТУР.**

У КАМІТЭЦЕ ДЗЯРЖКАНТРОЛЮ

# Дзесяць тон цэменту закамянела



Фота 15minut.org.

Службовыя асобы спісалі 478 літраў паліва.

**ВІЛЕЙКА. Вілейскі райаграсервіс паказаў найгоршы вынік у жывёлагадоўлі.**

Праверка дзяржкантролю паказала, што большасць недахопаў узнікла з-за неэфектыўнага кіравання таварыствам.

За 2012 год практычна ні адзін з паказчыкаў вытворчасці не дасягнуў узроўню 2011 года. Вытворчасць малака ўпала на 391 тону (14,5% да ўзроўня 2011), а яго рэалізацыя – на 18%. У сярэднім на карову надоена 3018 кілаграмаў малака. Сярэдні паказчык па Мінскай вобласці ў 2012 г. быў 5047 кілаграмаў

Прыплод буйной рагатай жывёлы ў 2012 годзе знізіўся ў параўнанні з папярэднім годам на 105 галоў (-13%).

Пра якія надоі можна весці гаворку, калі больш за палову кароў не змаглі зацяжарыць.

Валавае прыбаўленне ў вазе знізілася на 25%.

### Будаўнікам незаконна налічылі 67 мільёнаў

Са студзеня 2012 года таварыства рэканструюе ферму "Кузьмічы" без патрэбнай дакументацыі. Таму будаўнікам незаконна налічылі заробак больш чым на 67 мільёнаў рублёў.

Да таго ж, на аб'екце дзесяць тон цэменту закамянела, бо яго захоўвалі на будаўнічай пляцоўцы, ніяк не абараняючы ад ападкаў. Так таварыства згубіла амаль дзесяць мільёнаў рублёў.

Для будаўнічай працы прадпрыемства незаконна здабыло 2,7 тоны пясчана-гравійнай сумесі на адным з кар'ераў. Гэта нанясла шкоду навакольнаму асяроддзю больш чым на шэсць мільёнаў рублёў. Да таго ж, спатрэбілася даналічыць падатак на 13 мільёнаў рублёў.

### Знікла амаль 500 літраў паліва

З-за таго, што таварыства не мела дастаткова механізатараў і паліўна-змазачных матэрыялаў, вапнаванне кіслай глебы змаглі выканаць толькі на 60% ад плана. Больш за год на полі захоўвалася амаль 55 тон вапняку, за які за кошт бюджэтных сродкаў заплацілі пяць мільёнаў рублёў.

Пры гэтым сёлета ў студзені Вілейскі райаграсервіс аформіў недакладныя ўліковыя дакументы на спісанне 200 літраў бензіну і 378 літраў дызельнага паліва. Як выкарыстоўвалі паліва, высвятляе міліцыя.

Прадпрыемства атрымала 21,4 мільёна рублёў штрафу, 6,4 мільёна за шкоду навакольнаму асяроддзю. Адзінаццаць службовых асоб прыцягнутыя да дысцыплінарнай адказнасці, тры – да адміністрацыйнай.

Праверка знайшла хібы ў парадку вядзення бухгалтарскага ўліку, працоўнага заканадаўства і будаўніцтве. Сталі відавочнымі факты неэфектыўнага выкарыстання бюджэтных і ўласных сродкаў і безгаспадарлівасці.

**Паводле паведамлення Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю.**

## Камбінат хлебапрадуктаў аштрафавалі на 50 мільёнаў

**МАЛАДЗЕЧНА. За знойдзеныя падчас праверкі "Маладзечанскага камбіната хлебапрадуктаў" парушэнні таварыства атрымала штраф на 50 мільёнаў рублёў.**

Да дысцыплінарнай адказнасці прыцягнутыя 15 службовых асоб, да адміністрацыйнай – тры з агульнай сумай штрафа 4,6 мільёны рублёў.

Ад снежня 2012 года без прыемкі ў эксплуатацыю прадпрыемства выкарыстоўвала 41 адзінку абсталявання цэха (канвееры, норыі, вагі бункерныя) і кацельную для спальвання зерневых адыходаў. Гэтае абсталяванне каштуе 3,8 мільярды рублёў, але, паводле дадзеных бухгалтарскага ўліку, лічыцца незавершанай будоўляй.

Без дзяржаўнай экспертызы праекта і без адпаведнага дазволу на прадпрыемстве працавалі над рэканструкцыяй камбікормавага цэха.

Дагэтуль стаіць на складзе абсталяванне, якое закупілі для рэканструкцыі млына ў 2008-2010 гадах. Яно каштуе 557 мільёнаў рублёў, а рэканструкцыя завершаная ў 2010 годзе.

Праз бухгалтарскі ўлік не праходзіць больш за 10 тон лому чорнага металу на суму 7,9 мільёнаў рублёў.

Праверка знайшла парушэнні заканадаўства аб зваротах грамадзян, здзяйснення знешнегандлёвых аперацый, парадку вядзення бухгалтарскага ўліку, распараджэння адыходамі і будаўніцтва. Выяўлена, што крэдытныя і ўласныя сродкі таварыства выкарыстоўвала неэфектыўна.

**Паводле паведамлення Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю.**

ПАДАТКОВАЯ ІНСПЕКЦЫЯ ІНФАРМУЕ

# Аб выплаце падаткаў грамадзянамі пры вырошчванні прадукцыі раслінаводства

**Адным з відаў дзейнасці, пры ажыццяўленні якіх фізічныя асобы могуць не рэгістравацца як індывідуальныя прадпрымальнікі, з'яўляецца аказанне паслуг па вырошчванні сельскагаспадарчай прадукцыі.**

У адпаведнасці з Агульнадзяржаўным класіфікатарам "Віды эканамічнай дзейнасці", паслугі па вырошчванні сельскагаспадарчай прадукцыі ўключаюць:

- паслугі па апрацоўцы зямлі, пасеваў, вырошчванні і ўборцы ўраджаю; аграхімічныя паслугі: ўнясенне угнаенняў, вапнаванне і гіпсаванне глеб, у тым ліку з паветра;
- прадастаўленне сельскагаспадарчых машын з кіроўцам і брыгадай;
- паслугі па ўкараненні культуры, стымуляванні яе вырошчвання ці абароне ад хваробаў, насякомых-шкоднікаў і грызуноў, у тым ліку з паветра;
- падрыхтоўку насення, у тым ліку сушку, ачыстку, сартаванне, праверку на пасяўныя якасці і захоўванне;
- дапрацоўку палявых культур пасля ўборкі: ачыстку, сушку, сартаванне;
- работы па пагрузцы, разгрузцы і транспартаванні прадукцыі раслінаводства, арганічных і мінеральных угнаенняў у межах гаспадаркі;
- глебава-аграхімічныя даследаванні;
- працы па паляпшэнні сельскагаспадарчых угоддзяў;
- закладванне, апрацоўку і догляд садоў, паркаў, зялёных насаджэнняў у спартыўных аб'ектах, на могілках і г.д.;
- азеляненне вуліц, аўтамабільных дарог і чыгунак, водных крыніц, гарадскіх тэрыторый, тэрыторый прадпрыемстваў, догляд за зялёнымі насаджэннямі (у тым ліку падразанне дрэў і кустоў, іх перасадку, знішчэнне хворых дрэў);
- іншыя паслугі ў раслінаводстве.

Для спрашчэння падаткаабкладання фізічных асобы, якія аказваюць паслугі па вырошчванні сельскагаспадарчай прадукцыі, аднесеныя да плацельшчыкаў адзінага падатку.

Да пачатку ажыццяўлення дзейнасці фізічнай асобе неабходна звярнуцца ў падатковы орган па месцы жыхарства з заявай, у якой пазначыць, якім відам дзейнасці збіраецца займацца. На падставе заявы падатковы орган вылічвае адзіны падатак. Фізічнай асобе застаецца толькі яго выплаціць да пачатку ажыццяўлення дзейнасці.

У Мінскай вобласці выплата адзінага падатку праводзіцца зыходзячы са ставак адзінага падатку, устаноўленых рашэннем Мінскага абласнога Савета дэпутатаў ад 2013/01/29 № 214, у залежнасці ад месца аказання паслуг (выканання работ) за кожны месяц, калі будзеце працаваць.

Калі дзейнасць спыненая, у гэты час падатак не выплачваецца.

**Стаўка адзінага падатку ў Маладзечне і Маладзечанскім раёне складае 110 тысяч рублёў.**

Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць у інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах Рэспублікі Беларусь па Маладзечанскім раёне, тэлефон: **8(0176) 77-06-25, 77-28-30.**

**Сяргей КУКЕЛЬ, намеснік начальніка інспекцыі, начальнік упраўлення кантролю за падаткаабкладаннем ІП і фізічных асоб.**

| Курсы валют НБ РБ | 22.08 | 29.08 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 8 920,00 | **8 960,00** |
| Еўра | 11 950,00 | **11 980,00** |
| Злоты | 2 814,01 | **2 816,46** |
| Літ | 3 459,71 | **3 470,11** |
| Расійскі рубель | 270,50 | **270,00** |
| Грыўня | 1 097,00 | **1 103,04** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 8910/8970 | **8950/9010** |
| Еўра | 11920/12020 | **11960/12050** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 21.08 | 28.08 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.,** 1 кг | 105800 | **105800** |
| **Сасіскі,** 1 кг | 45050 | **45050** |
| **Ялавічына, кумпяк,** 1 кг | 75000 | **70000** |
| **Кураня-бройлер,** 1 кг | 23500 | **23500** |
| **Мінтай свежамарожаны,** 1 кг | 23800 | **23800** |
| **Селядзец,** 1 кг | 23400 | **22400** |
| **Скумбрыя х/в,** 1 кг | 89000 | **89000** |
| **Рыс,** 0,9 кг | 9000 | **10000** |
| **Грэчка,** 0,9 кг | 8000 | **8000** |
| **Яйкі курыныя,** 1 дзес. | 9500 | **9000** |
| **Алей** | 15900 | **16000** |
| **Маянэз,** 200 г | 5000 | **5000** |
| **Соус "Мінскі",** 0,5 л | 7400 | **7400** |
| **Кава "Nescafe",** 100 г | 28000 | **29800** |
| **Шпроты,** бляшанка 160 г | 8900 | **8500** |
| **Цыбуля рэпчатая,** 1 кг | 7000 | **5500** |
| **Капуста,** 1 кг | 4800 | **4500** |
| **Морква,** 1 кг | 6000 | **5500** |
| **Буракі,** 1 кг | 6000 | **5000** |
| **Лімоны,** 1 кг | 20000 | **20000** |
| **Апельсіны,** 1 кг | 14500 | **13000** |
| **Мандарыны,** 1 кг | 19500 | **20000** |
| **Памідоры,** 1 кг | 9000 | **5500** |
| **Агуркі,** 1 кг | 8300 | **8000** |
| **Перац,** 1 кг | 11500 | **8000** |
| **Вінаград,** 1 кг | 20000 | **20000** |
| **Бананы,** 1 кг | 12500 | **10800** |
| **Яблыкі,** 1 кг | 9000 | **12000** |
| **Грушы,** 1 кг | 22500 | **12500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако,** 1,5 л | 12000 | **13000** |
| **Масла,** 1 кг | 60000 | **60000** |
| **Тварог,** 1 кг | 30000 | **30000** |
| **Яйкі курыныя,** 1 дзес. | 15000 | **15000** |
| **Бульба маладая,** 1 кг | 5000 | **4000** |
| **Мёд,** 1 кг | 50000 | **50000** |

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

# Сутыкнуліся тры машыны

## "Сітраэн Пікаса" разбіў агароджу парка



Фота Зоі ХРУЦКАЙ

Кіроўца "Сітраэна" адразу пасля аварыі падзяліўся, як яму пашанцавала, што не ўрэзаўся ў дрэва.

**МАЛАДЗЕЧНА. Аварыя здарылася каля 17 гадзін 26 жніўня.**

Як патлумачыў сітуацыю дзяржаўтаінспектар **Сяргей Бартош,** за рулём "Хундая" па Вялікім Гасцінцы з боку Віленскай ехаў 19-гадовы хлопец. Ён зусім нядаўна атрымаў правы кіроўцы.

На перакрыжаванні каля гімназіі №6 ён уключыў паваротнік налева. Праезд на дарогу да рынка яму забаронены з-за аднабаковага руху. Таму хлопец мусіў развярнуцца.

Насустрач рухаліся дзве машыны. Вырашыўшы, што паспявае, ён не прапускае дзве машыны, выконвае манеўр, але падчас развароту падбівае "Форд Мандэа".

"Форд" ехаў у адной паласе з "Сітраэнам Пікаса" ў бок Смаргоні. Ад удару "Форд" стукнуўся ў "Сітраэн", якога вынесла на сустрэчную паласу, ён праскочыў міма дрэў і ўрэзаўся ў агароджу парка.

Кіроўца "Сітраэна" падзяліўся эмоцыямі пасля аварыі з карэспандэнтам "РГ":

– Нават не сцяміў, адкуль удар! Машына некіруемая стала. Замятляла, спрабаваў штосьці зрабіць з ёй. Вынесла ў агароджу, думаў – усё, канец, але абышлося. Калі б у дрэва, то дакладна канец быў бы!

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Шмат фота і відэа глядзіце на сайце rh.by.**

## ДАІ рыхтуе кіроўцаў: на дарозе школьнікі

**МІНШЧЫНА. Дзяржаўтаінспекцыя Мінскай вобласці ад 26 жніўня да 6 верасня ладзіць мерапрыемства пад дэвізам "Увага – дзеці!!!".**

Яго мэта – прафілактыка дзіцячага дарожна-транспартнага траўматызму.

Пераканаўчая просьба да кіроўцаў ехаць у светлы час сутак з уключаным блізкім святлом фар, быць надзвычай асцярожнымі і ўважлівымі.

Дзяржаўтаінспекцыя разам з аддзелам адукацыі ад 31 жніўня да 6 верасня праводзіць тыдзень бяспекі дарожнага руху ў рамках спецмерапрыемства "Увага – дзеці!!!"

30 жніўня ДАІ праводзіць адзіны Дзень бяспекі дарожнага руху пад дэвізам "Дзеці ідуць у школу!"

**Дзмітры ЮРКЕВІЧ, часова выконвае абавязкі начальніка аддзела дзяржаўтаінспекцыі Маладзечанскага райаддзела міліцыі, маёр міліцыі.**

ЗДАРЭННІ

## Паліў смецце, ліную бензіну – і апынуўся ў бальніцы

**ВІЛЕЙКА. Раніцай 26 жніўня ў цэнтр аператыўнага кіравання Вілейскага райаддзела па надзвычайных сітуацыях паступіла паведамленне пра пацярпелага ад агню.**

Брыгада хуткай медыцынскай дапамогі даставіла ў прыёмны пакой 36-гадовага мужчыну з тэрмічнымі апёкамі.

Пачалося ўсё з таго, што ўвечары 25 жніўня ў двары дома ў Вілейцы палілі смецце.

– Мужчына палічыў, што вогнішча гарыць слаба, і ліную бензіну, – паведаміў інспектар інспекцыі Дзяржпажнагляду райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Андрэй Балаш**. – Успыхнула полымя. У выніку мужчына атрымаў тэрмічныя апёкі (3% цела) шыі, левай кісці, перадплечча.

Адразу мужчына лячыўся сам і толькі раніцай звярнуўся ў бальніцу. Ён шпіталізаваны.

**Аддзел інфармацыі.**

ЗДАРЭННІ

## Затрымалі на несанкцыянаваным рок-фестывалі

**ВІЛЕЙКА. У суботу, 24 жніўня, каля вёскі Асіпавічы Вілейскага раёна праходзіў музычны рок-фестываль Burning summer open air.**

Паводле інфармацыі БелаПАН, яго ўдзельнікі паведамлялі пра масавыя затрыманні міліцыяй, пра тое, што ў райаддзел міліцыі даставілі каля 100-150 чалавек.

З гэтай нагоды ўпраўленне унутраных спраў Мінаблвыканкама апублікавала афіцыйнае паведамленне:

"У суботу, 24 жніўня 2013 года, падчас мерапрыемстваў па ахове грамадскага парадку ў месцах адпачынку на беразе ракі Вілія, паблізу вёскі Асіпавічы Вілейскага раёна супрацоўнікі РАУС знайшлі каля 150 грамадзян. Там жа была ўсталяваная гукаўзмацняльная апаратура, гучна грала музыка. Як паведамілі супрацоўнікам міліцыі самі ўдзельнікі, яны прыехалі на "рок-фэстываль". Некаторыя маладыя людзі распівалі спіртныя напоі і ўжо былі п'яныя.

Супрацоўнікі міліцыі неадкладна спынілі парушэнні грамадскага парадку. У выніку сем чалавек затрымалі. У дачыненні да іх склалі адміністрацыйныя пратаколы за распіццё алкагольных напояў у грамадскім месцы або з'яўленне ў грамадскім месцы ў п'яным выглядзе".

"Характэрна, што трое з затрыманых раней ужо прыцягваліся да адказнасці за аналагічныя правапарушэнні. Правядзенне несанкцыянаванага масавага мерапрыемства было спынена. Фізічная сіла і спецыяльныя сродкі не ўжываліся і не выкарыстоўваліся, – падкрэслівацца ў паведамленні УУС. – Цяпер Вілейскі РАУС праводзіць далейшы разбор. Устанаўліваюць арганізатараў мерапрыемства, іншыя абставіны, якія сталі прычынай яго правядзення".

*У паведамленні нагадалі, што "правядзенне падобных мерапрыемстваў рэгламентуецца законам "Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь". У прыватнасці, для атрымання адпаведнага дазволу арганізатары не пазней чым за 15 дзён павінны пісьмова звярнуцца ў мясцовы выканаўчы або распарадчы орган, на тэрыторыі якога планируецца правядзенне масавага мерапрыемства, а таксама забяспечыць усе неабходныя ўмовы яго правядзення".*

У "Нашу ніву" звярнуўся чытач, які быў сведкам падзей. Паводле яго словаў, на фэсце было менш людзей, чым указвалася ў ранейшых паведамленнях. Выступаў усяго адзін гурт, яго выступ і перапынілі міліцыянеры. Не было і сотні затрыманых, паведамляе сведка, бо міліцыянты "прыехалі ўсяго на некалькіх машынах", а "аўтазакаў не было 100%".

Чытач сцвярджае, што міліцыянераў было каля трох дзясяткаў: "Пры мне забіралі парачку моцна п'яных і буйных, але практычна ўсіх "афармілі" на месцы і адпусцілі. Многія ўдзельнікі адразу пасля з'яўлення органаў пакінулі месца правядзення".

**Аддзел інфармацыі.**



МІЛІЦЫЯ ІНФАРМУЕ

## Якія машыны крадуць?

### І што рабіць, каб не скралі вашую

**МАЛАДЗЕЧНА. За паўгода на Маладзечаншчыне сем машын скралі і дваццаць угналі.**

Падчас аналізу выяўлена, што найчасцей крадуць і ўганяюць машыны ВАЗ і іншамаркі 1990-1999 гадоў. Дагэтуль не знайшлі наступныя аўтамабілі:

ВАЗ-21061, 1998 г.в., дз.н. 3419ІК5 сіняга колеру;

ВАЗ-21033, 1982 г.в., дз.н. д5346МБ жоўтага колеру;

"Форд Фіеста" 1992 г.в., дз.н. 6328ОАО, барвовага колеру;

"Фіят Тыпа" 1991 г.в., дз.н. 9235ІІ5, чорнага колеру.

Звычайна машыны крадуць з неахоўваемых стаянак у дварах дамоў, неасветленых вуліц, неахоўваемых гаражных кааператываў. Усе скрадзеныя аўтамабілі не мелі ахоўнай сігналізацыі, гаспадары пакінулі іх без нагляду.

Што тычыцца толькі ўгонаў машын, то ўсе яны – іншамаркі 90-х гадоў выпуску. У шасці выпадках ключы былі ў замку запальвання. Гэты факт паказвае на абыякавае стаўленне гаспадароў да сваіх машын.

Сем машын знайшлі з істотнымі механічнымі пашкоджаннямі.

Машыны крадуць і ўганяюць розныя людзі. Гэта і раней судзімыя, і непаўнагадовыя, але пераважна – нецвярозыя.

Матыў таксама розны. Хтосьці хацеў перапрадаць машыну ці яе часткі, хтосьці хацеў пакатацца. Звычайна апошняя прычына "натхняе" на ўгон непаўнагадовых, якія яшчэ не разумеюць, што з-за такога свавольства іх могуць прыцягнуць да крымінальнай адказнасці з магчымым пазбаўленнем свабоды.

Звяртаем увагу гаспадароў транспартных сродкаў на неабходнасць быць пільнымі да свайго аўтамабіля. **Выконвайце мінімальныя патрабаванні, каб абараніць сябе і сваю маёмасць:**

1. Устанавіце на аўтамашыну сігналізацыю, якая каштуе каля аднаго мільёна рублёў, але можа папярэдзіць больш ўрон;

2. Стаўце аўтамабіль на стаянкі, якія ахоўваюцца;

3. Сачыце за належным асвятленнем двароў і своечасова інфармуйце домакіраўніцтва аб непаладках, патрабуйце рамонту.

Асабліва рэкамендую вырашыць пытанне аб установцы ў дварах камер відэаназірання добрай якасці, каб маглі зафіксаваць усе падзеі. Калі на сцяне дома ці пры ўваходзе ў пад'езд будзе шыльда з паведамленнем пра тое, што ў дварах вядзецца відэаназіранне, наўрад ці злачынцы захочуць парушаць закон менавіта тут. А калі яны ўсё ж гэта зробяць, то з дапамогай камер знайсці іх будзе значна прасцей. Такія прыклады ў Маладзечне ўжо ёсць.

Калі вы ведаеце пра месцы, дзе разбіраюць машыны, дзе шмат пашкоджаных машын, ці заўважылі дзесьці падазроны аўтамабіль, паведаміце па нумары **102** ці **8(0176) 77-14-46.**

Ананімнасць па вашым патрабаванні будзе гарантаваная.

**Юры КАБАКОЎ, часова выконвае абавязкі начальніка Маладзечанскага райаддзела унутраных спраў, маёр міліцыі.**

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## У Вытрапаўшчыне жанчына ўдарыла мужа нажом і сама выклікала "хуткую"

**МАЛАДЗЕЧНА. Здарэнне адбылося вечарам 21 жніўня. Мужчыне зрабілі аперацыю, ён цяпер у Маладзечанскай бальніцы.**

Прычынай трагедыі стаў алкаголь. У вёсцы Вытрапаўшчына паміж мужам і жонкай, якія жывуць разам ужо дзевяць гадоў, разгарэлася сварка.

П'яная 52-гадовая жанчына ўдарыла свайго мужа нажом.

Паводле словаў жанчыны, муж пачаў яе біць, а потым спрабаваў душыць. У мэтах самаабароны яна ўзяла кухонны нож і ўдарыла свайго грамадзянскага мужа ў грудзі.

Зразумеўшы, што нарабіла, яна выбегла на двор, паклікала суседзяў і патэлефанавала ў хуткую дапамогу.

Цяпер 34-гадовы пацярпелы ляжыць у хірургічным аддзяленні. Стан яго здавальняючы.

– Крымінальную справу пакуль не завялі, – кажа начальнік трэцяга следчага аддзела Маладзечанскага следчага камітэта падпалкоўнік **Віталь Радзюк**. – Цяпер праводзяцца следчыя дзеянні, накіраваны на высвятленне абставінаў таго, што адбылося.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

ПАРАДЫ ПСІХОЛАГА

# Вашае дзіця ідзе ў школу?

## Не забудце псіхалагічна падтрымаць яго!

**МАЛАДЗЕЧНА. Першы год навучання ў школе – надзвычай складаны, пераломны перыяд у жыцці дзіцяці. Мяняюцца яго месца ў сістэме грамадскіх зносінаў, лад жыцця.**



Таццяна ЖДАНАВА, псіхолаг Маладзечанскага раённага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.

У гэты час павялічваецца псіхаэмацыйная нагрузка. Бесклапотныя гульні раптам замяняюцца на штодзённыя вучэбныя заняткі. Урокі патрабуюць напружанай разумовай працы, увагі і пры гэтым амаль нерухомага становішча.

Безумоўна, для дзіцяці шасці-сямі год так званая статычная нагрузка вельмі цяжкая. Да таго ж, многія школьнікі займаюцца музыкай, замежнымі мовамі, а адпачываюць за праглядам тэлевізара. Таму рухомая актыўнасць дзіцяці рэзка змяншаецца ўдвая, але патрэба застаецца ранейшай.

Дзіця, якое ўпершыню прыходзіць у школу, сустракае новы калектыў дзяцей і дарослых, яму даводзіцца выконваць новыя абавязкі і правілы дысцыпліны. Але не ўсе да гэтага падрыхтаваныя. Нават першакласнікі з высокім узроўнем інтэлектуальнага развіцця з цяжкасцю спраўляюцца са школьнай нагрузкай.

Пачатак новага навучальнага года складаны для ўсіх дзяцей. У адказ на новыя павышаныя патрабаванні да арганізма, школьнік можа наракаць на стомленасць, галаўны боль. Можа ўзнікнуць раздражняльнасць, плаксівасць, парушыцца сон. У дзяцей можа паменшыцца апетыт і знізіцца вага.

Здараюцца і складанасці псіхалагічнага кшталту: пачуццё боязі, адмоўнае стаўленне да вучобы ці настаўніка, няправільнае ўяўленне пра свае магчымасці.

**Перыяд адаптацыі можа доўжыцца ад дзвюх-трох тыдняў да паўгода.**

Падчас адаптацыі вельмі важная падтрымка дарослых – мамы, таты, бабуляў і дзядуляў. Чым больш дарослыя дапамогуць прызвычаіцца да школы, тым больш паспяхова дзіця гэта зробіць.

**Прыкметы паспяховай адаптацыі:**

1. Задаволенасць навучаннем. Яму падабаецца ў школе, не адчувае няўпэўненасці і боязі.

2. Дзіця даволі лёгка выконвае праграму. Калі школа звычайная, а дзіцяці складана паспяваць за праграмай, неабходна падтрымаць сына ці дачку. Не крытыкуйце за маруднасць і не параўноўвайце з іншымі дзецьмі! Усе дзеці розныя, падтрымайце свайго ў цяжкі момант.

3. Надзвычай важна з самага пачатку натхніць дзіця, напоўніць упэўненасцю ў поспех. Змагайцеся з панурасцю ("у мяне нічога не атрымаецца"). Інакш змагацца з апатыяй давядзецца вельмі доўга.

4. Наколькі самастойна дзіця выконвае хатнія заданні. Прыкмета паспяховасці – калі дзіця просіць дарослых дапамагчы толькі ПАСЛЯ таго, як паспрабуе выканаць заданне сам. Здараецца, бацькі залішне стараюцца дапамагчы дзіцяці. З-за гэта вучань можа прывыкнуць рыхтаваць заданні разам. Таму лепш адразу дамовіцца аб межах вашай дапамогі і паступова змяншаць іх.

5. Самае галоўнае – калі дзіця задаволенае міжасабовымі адносінамі з аднакласнікамі і настаўнікам.

Некалькі парадаў псіхолага для паспяховай адаптацыі:

Будзіце дзіця спакойна. Калі сын ці дачка прачнецца, ён ці яна павінны ўбачыць вашу ўсмешку і пачуць ваш голас.

**Не спяшайцеся. Уменне размяркоўваць час – ваш клопат. Калі ў вас гэта не атрымліваецца, дзіця не вінаватае.**

Не варта развітвацца словамі: "Каб не гарэзіў!", "Каб сёння дрэнных адзнак не было". Пажадайце поспеху, знайдзіце некалькі ласкавых слоў.

Забудце фразу: "Што ты сёння атрымаў?" Калі сустракаеце дзіця са школы, не накідвайце на яго тысячу пытанняў, дайце крыху расслабіцца. Падумайце, як вы самі адчуваеце сябе пасля працоўнага дня.

Калі вы бачыце, што дзіця засмучанае, маўчыць – не дапытвайцеся, няхай супакоіцца і сам раскажа вам.

Выслухайшы заўвагі настаўніка, не спяшайцеся сварыцца. Старайцеся, каб размова з настаўнікам адбылася без дзіцяці.

Пасля школы не прыспешвайце садзіцца за ўрокі. Дзіцяці трэба дзве гадзіны адпачыць. Займацца цэлымі вечарамі бессэнсоўна.

Не прымушайце выконваць усе практыкаванні адразу: 20 хвілін заняткаў – 10 хвілін перапынак.

Падчас падрыхтоўкі ўрокаў не сядзіце "над душой". Дайце дзіцяці працаваць самому. А калі неабходная ваша дапамога – набярыцеся цярплівасці: спакойны тон і падтрымка неабходныя школьнікам.

Імкніцеся пазбягаць умоў: "Калі ты выканаеш, то..."

**По псіхалагічную дапамогу і падтрымку можна звярнуцца па адрасе: Маладзечна, Таўлая, 4. Тэлефон "Давер" 8(0176) 74-66-20**

Знайдзіце на працягу дня хаця б паўгадзінкі, калі будзеце належаць толькі сыну ці дачцэ.

Выбірайце адзіную тактыку зносін з дзіцем усіх дарослых у сям'і. А ўсе разыходжанні ў пытаннях педагагічнай тактыкі вырашайце без яго.

Будзьце ўважлівыя да нараканняў на галаўны боль, стомленасць, кепскае самаадчуванне. Найчасцей гэта аб'ектыўныя паказчыкі перастамлення.

Улічвайце, што нават вялікія дзеці вельмі любяць казку перад сном, песеньку, ласкавае пагладжванне. Усё гэта супакоіць дзіця і дапаможа зняць напружанасць за дзень.

Нельга спадзявацца, што адаптацыя да школы сама па сабе пройдзе паспяхова. Гэтаму працэсу не толькі можна, але і трэба дапамагчы.

З прычыны цяжкой адаптацыі арганізм можа моцна знясілець з-за пертамленняў, прастуд, эмацыйных перагрузак. Таму пастарайцеся, каб дзіця прызвычаілася да школы як мага лягчэй.

### Памятка для бацькоў

У шэсць-сем год фарміруюцца мозгавыя механізмы, якія дазваляюць вучню быць паспяховым у навучанні. Медыкі лічаць, што ў гэты час дзіцяці складана з самім сабой. Таму мелі рацыю нашыя прабабулі, якія адпраўлялі дзяцей у гімназію толькі ў дзевяць год, калі нервовая сістэма сфарміравалася.

Аднак сур'ёзных зрываў можна пазбегнуць і сёння, калі выконваць простыя правілы.

**Правіла 1**

Ніколі не адпраўляйце дзіця адначасова ў падрыхтоўчы (ці першы) клас і якую-небудзь секцыю ці гурток. Ужо толькі пачатак школьнага жыцця – цяжкі стрэс для шасці-сямігодак.

Калі дзіця не будзе мець магчымасці гуляць, адпачываць і рыхтаваць урокі не спяшаючыся, могуць узнікнуць праблемы са здароўем.

Калі вы лічыце заняткі музыкай і спортам неабходнай часткай выхавання, пачніце вадзіць на іх ці за год да пачатку вучобы, ці з другога класа.

**Правіла 2**

Дзіця можа канцэнтраваць увагу не больш за 10-15 хвілін. Таму, калі будзеце разам займацца ўрокамі, рабіце перапынкі і абавязкова давайце фізічную нагрузку.

Можна проста паскакаць на месцы 10 разоў, пабегаць ці патанчыць пад музыку некалькі хвілін.

Пачынаць урокі найлепш з пісьма. Можна чаргаваць пісьмовыя заданні з вуснымі. Выконваць хатнія заданні першакласнік павінен не больш за адну гадзіну.

**Правіла 3.**

Камп'ютар, тэлевізар і іншыя заняткі, якія вымагаюць вялікай зрокавай нагрузкі, павінны працягвацца не больш за гадзіну на дзень. Так лічаць дактары-афтальмолагі і неўрапатолагі ўсіх краін свету.

**Правіла 4**

Больш за ўсё на свеце ўвесь першы год вучобы дзіцяці неабходная ваша падтрымка. Ён не толькі фарміруе свае зносіны з аднакласнікамі і настаўнікамі, але і ўпершыню разумее, што хтосьці хоча з ім сябраваць, а хтосьці – не.

Менавіта таму ў дзіцяці складваецца асабісты погляд на сябе. Калі вы хочаце, каб з яго вырас спакойны ўпэўнены чалавек, абавязкова хваліце сына ці дачку.

Падтрымлівайце, не сварыцеся за двойкі і брудныя сшыткі. Усё гэта дробязі ў параўнанні з тым, што ад бясконцых папрокаў і пакаранняў вашае дзіця згубіць веру ў сябе.



Фота ikar.info.

Калі хочаце, каб вашае дзіця было паспяховым у школе, зараджайце яго пазітывам і энергіяй ад самай раніцы.

## І яшчэ некалькі кароткіх правілаў

– паказвайце дзіцяці, што яго любіце такім, які ён ёсць, а не яго дасягненні
– нельга ніколі (нават калі вы злуяцеся) казаць дзіцяці, што ён горшы за іншых
– варта цярпліва і па магчымасці праўдзіва адказваць на любыя пытанні дзіцяці
– старайцеся штодня знаходзіць час, каб пабыць сам-насам са сваім дзіцем
– вучыце дзіця свабодна і нязмушана размаўляць не толькі з аднагодкамі, але і з дарослымі
– падкрэслівайце, як вы ганарыцеся сынам ці дачкой
– будзе шчырыя, калі ацэньваеце свае пачуцці да дзіцяці
– заўсёды кажыце дзіцяці праўду, нават калі вам гэта нявыгадна
– ацэньвайце толькі ўчынкі, а не само дзіця
– не дамагайцеся поспеху сілай. Прымушаць – найгоршы варыянт маральнага выхавання. Прымус у сям'і стварае атмасферу разбурэння асобы дзіцяці
– прызнавайце права дзіцяці на памылкі
– думайце пра дзіцячы "банк" шчаслівых успамінаў
– дзіця ставіцца да сябе так, як ставяцца да яго дарослыя
– хоць зрэдку стаўце сябе на месца свайго дзіцяці, тады вам будзе больш зразумела, як паводзіць сябе з ім.

Жадаем поспехаў вам і вашым дзеткам!

**Таццяна ЖДАНАВА, псіхолаг Маладзечанскага раённага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.**

ЗАХАПЛЕННІ

# Даўнейшая мэбля ад Уладзіміра Бепершча

**МЯДЗЕЛ. Уладзімір Беперш з вёскі Нарач (Кабыльнік) вырабляе мэблю. І не простую, а эксклюзіўную, пад даўніну.**

– Раней дзверы ды вокны рабіў, – прыгадвае ён. – Сам вырашыў паспрабаваць нешта цікавае стварыць. Распрацаваў тэхналогію і зрабіў крэсла ў старадаўнім стылі. Чалавек убачыў – спадабалася, папрасіў для яго такое зрабіць. Так і пачалося.

Цяпер усё што заўгодна можа зрабіць: шафы, ложкі, крэслы, камоды...

– Сам да такога узроўню дайшоў, – кажа. – Нідзе не вучыўся, усё праз сваю галаву.

**– Гэта цікава – мэблю пад даўніну рабіць?**

– Так. Цяпер ні за вокны, ні за дзверы і не бяруся. Такую мэблю цікавей рабіць, бо кожны экземпляр па-свойму прыгожы.

**– Значыць, гэта шчырае захапленне?**

– Так, калі праца творчая, яно і для душы цікавей. Нават тыя крэслы… Яны на выгляд аднолькавыя, а адрозненні ж ёсць. Кожны гаспадар хоча, каб у яго была асаблівая мэбля, каб у нікога болей такой не было. Так што амаль усе рэчы эксклюзіўныя.

**– Але ж вырабляць такую мэблю шмат часу займае...**

– Такое, што хутка не зробіш. Нават табурэт тры дні рабіць трэба, не пагоніш хутка. Ручная ж праца.

Займаецца вырабам мэблі Уладзімір разам са шваграм Валерыем. А ствараецца яна з сасны. Апрацоўваецца так, што становіцца падобнай на дуб.

**– А з дуба ці спрабавалі рабіць?**

– Спрабаваў. Яго цяжэй апрацоўваць, але атрымліваецца прыгожа.

І кузня ў майстра ёсць – таксама у мэблевай справе рэч патрэбная.

– Жалеза прыгожа выглядае на дрэве, калі ўсё пад даўніну, – разважае Уладзімір. – Той жа цвік выкуеш, у стол загоніш – і па-іншаму, падаўнейшаму глядзіцца. Вось і люстру коўкай аздобіў.

**– А якая самая каштоўная для вас праца?**

– Люстра гэтая з колам: таму што пагуляцца з ёй давялося. Тыдні паўтара праца заняла. Было самому цікава: ці змагу зрабіць?

Уладзімір хоча і далей справу развіваць, новыя ідэі з'яўляюцца. Ёсць задумы трэльяжы, буфеты зрабіць. І на выставу якую з'ездзіць, каб свае творы паказаць. Сёлета ужо быў на выставе-кірмашы "Камарова – кола дзён".

**– Уладзімір, за гэтыя гады ўсе сакрэты справы асвоілі?**

– Усе не асвоіш, пастаянна нечаму вучышся – трэба ж удасканальвацца.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Уладзімір Беперш з крэслам, якое зрабіў сам.

СВЯТЫ

# У Мядзеле прывіталі школу

**МЯДЗЕЛ. Другі раз напярэдадні новага навучальнага года ў райцэнтры прайшло свята "Прывітанне, школьная пара".**

На плошчы Леніна для дзяцей наладзілі разнастайныя забавы. Працавалі гульнявыя і спартыўныя пляцоўкі. Тут сярод іншага можна было пагуляць у дартс, настольны тэніс, праверыць свае турысцкія навыкі і ўменне ездзіць на роварах. Цырульнікі правадзілі майстар-клас па дзіцячых прычосках.

А найбольшую ўвагу дзяцей выклікала пляцоўка фэйс-арта. Калі іншыя ўжо завяршылі працаваць, то тут яшчэ выстройвалася чарга з дзяцей – столькі было жадаючых упрыгожыць твар малюнкам.

– Цяжка і палічыць, колькі твараў размалявала, – кажа мастак-афарміцель Мядзельскага ГДК **Вікторыя Янцэвіч**. – І катоў, матылькоў, ільвянят, тыгранят просяць намаляваць.

Не праміналі дзеці пляцоўку для фотасесій, каб сфатаграфавацца з фанернымі фігурамі Губкі Боба і іншых папулярных мультыплікацыйных персанажаў.

Завяршыў свята канцэрт у амфітэатры. Выступалі юныя таленты, якія адпачываюць у цэнтры "Зубраня". А мядзельскія дзеці паказалі ўзоры школьнай моды: на сцэну выходзілі ад маленькіх вучняў да старшакласнікаў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

**На здымках: ствараюць малюнак на твары, дзіцячая фотасесія, дэманструюць узоры школьнай моды.**

МУЗЕІ

# У музеі пачалася выстава Леаніда Безнаса



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Леанід Безнас, творы мастака.

**МЯДЗЕЛ. У музеі народнай славы адкрылася выстава жывапісу і графікі "Радзіма". На ёй прадстаўлены творы члена-карэспандэнта Пятроўскай Акадэміі навук і мастацтваў Леаніда Безнаса.**

Леанід Безнас – марскі афіцэр. Служыў на выратавальных караблях, ўдзельнічаў у выратавальных аперацыях на моры, прымаў удзел у выпрабаваннях новай выратавальнай тэхнікі і падводных лодак.

І хоць сваё жыццё звязаў з ваенным флотам, ён ніколі не развітваўся з эцюднікам. Завочна закончыў Маскоўскі ўніверсітэт мастацтваў, праілюстраваў шэсць кніг па гісторыі флоту. Леанід Безнас – прафесар Ваенна-марской акадэміі ў Санкт-Пецярбургу.

З Нарачанскім краем творца звязаны ад 1959 года: праводзіць тут свой адпачынак на лецішчы. На выставе прадстаўлены 34 працы: нарачанскія краявіды, выявы храмаў, нацюрморты. Зроблены яны на Мядзельшчыне ў розны час.

— Мне хацелася, каб наведвальнікі выставы пабачылі прыгажосць і асаблівасці гэтага куточка Беларусі вакол Нарачы — беларускага мора, – адзначыў Леанід Безнас.

Працягнецца выстава да 19 верасня.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

УСПАМІНЫ ЖЫХАРКІ ІЛЬЯНШЧЫНЫ

# Па-царску жаніліся, жылі па-сялянску

**ВІЛЕЙКА. Жыццё пражыць – не поле перайсці. Гэта прымаўка тычыцца кожнага. Каля васьмідзесяці – як гэта многа і як гэта коратка. Нібы сон. Мільганула нешта і знікла ў нябыт.**

Толькі ўспаміны. З чаго пачаць?

### Землякі ў Піцеры

Нарадзілася я ў 1928 годзе. Не былінка ў полі. Бацькі выхоўвалі нас, нагадваючы свае мінулае, адбіралі з жыцця больш значныя моманты, па якіх можна было арыентавацца ў будучыні.

Маці з бацькам спаткаліся на чужыне, у Петраградзе. Менавіта так называлі горад іх маладосці, цікавых спатканняў і ўтварэння сям'і.

Маці трапіла туды ў 1910 годзе. Бацька крыху пазней. Прайшоў час, пакуль землякі нейкім чынам сустрэліся.

Беларусы-землякі з усяго горада часта сустракаліся. Спатканні былі абавязковыя, не менш, чым раз у 10 дзён. З'явілася бацькава аднасяльчанка Марыля Кратовіч. Адазваўся стрыечны брат Васіль Папковіч. Сябра дзяцінства Мікалай Шульскі. Прыехала маміна сяброўка дзяцінства Манька Юшкевіч, яна была больш дасведчаная, паколькі працавала на фабрыцы.

Мама была нянькаю ў сям'і інжынера шляхоў зносін. Яе абавязкам было сачыць за паводзінамі дзяцей, гуляць з з імі і пакрысе далучаць да польскай мовы.

Поўным ходам рыхтавалася вяселле не толькі маладымі, але і сябрамі.

Час аказаўся не з лепшых. Адбылася лютаўская рэвалюцыя. Яшчэ да рэвалюцыі ў мамы наладзіліся цесныя сувязі з дзядзькам па бабулінай лініі Іосіфам Дзікам. Гэта афіцэр царскай арміі, які нёс службу пры царскай канюшні і меў у сваім распараджэнні падначаленых. У яго ўжо была сям'я. Дзядзька меў двое дзяцей – Іосіфа і Валянціну. Мая мама была ў іх хроснай.

Царская канюшня поўнасцю перайшла ў распараджэнне абслугі. Дзядзька сам кіраваў тройкай белых, запрэжаных у царскую карэту. Вянчанне прайшло ў Царскім Сяле. Так двое беларусаў – Антон Іванавіч Папковіч і Вольга Антонаўна Спірыдовіч – па-царску стварылі сям'ю. Час аказаўся гістарычна значным, хісткім. Час паміж дзвюма рэвалюцыямі. Відаць, для маладых у такія хвіліны не існуе навакольнага свету.

Пачаўся масавы ад'езд іншаземных спецыялістаў з Расіі на Захад. Гаспадар прапанаваў служанкам ехаць за мяжу разам з яго сям'ёю. Сям'я Папковічаў стварала сваё асабістае жыццё.

Наступаў голад. Бацька памяняў работу. З пажарнай каманды перайшоў на працу ў паштовы вагон. Суправаджаў пошту ў напрамку Петраград-Кіеў. З Кіева прывозіў хлеб і іншыя харчовыя прадукты. Маці чакала прыбаўлення ў сям'і. У 1918 годзе нарадзіўся хлопчык Косця.

### Вяртанне сям'і на радзіму

Ішла вайна. На захад адступалі нямецкія ўзброеныя сілы. Маладыя бацькі рашылі перачакаць неўладкаванасць дома ў вёсцы. У вагоне Косцік страціў прытомнасць. Мама клікала на дапамогу. Падышлі двое: доктар і перакладчык. Доктар дапамог і абнадзеіў, што нічога сур'ёзнага не здарылася, проста ў перапоўненым вагоне хлопчыку стала душна. Але бяда не мінула.

Праз некалькі дзён пасля прыезду дамоў хлопчыка не стала. Ён пражыў усяго шэсць месяцаў.

Бацькоўская зямля прыняла родных. Пасяліліся ў дзедавай хаціне. Дзед Іван Раманавіч з бабуляй ды малодшы бацькаў брат Аляксей.

У тыя гады ішоў падзел тэрыторыі паміж палякамі і бальшавікамі. Са слоў старэйшых, спачатку мяжу абазначылі па рацэ, каля Шыпкоў. Наша вёска павінна была застацца ва ўсходняй частцы, але быццам бы пан Бароўскі з Лукаўца дамовіўся з памежным начальствам і неўпрыкмет адсунуў сваю лінію крыху на ўсход.

У 1918 годзе Папковічы пабудавалі хату. Два браты меркавалі далей жыць адной сям'ёй. У сям'ю прыйшла маміна стрыечная сястра, і погляды на сумеснае жыццё разышліся. Побач пабудавалі яшчэ адзін дом. Туды пайшлі меншы брат з жонкаю і дзядуля Янук. Бабуля да таго часу памерла і ў маёй памяці не захавалася.

У маіх бацькоў адно за адным нараджаюцца дзеці, жывуць вельмі мала. У асноўным паміраюць, не дажыўшы да года.

Больш вынослівая была Ніна, яна з 1919 года. Я з'явілася ў 1928. У 1930 дапаўняе нашу сям'ю брат Ваня.

### За мяжу – у Саветы

У гэтыя гады моладзь масава пераходзіла мяжу. Саветы клікалі да сябе. З вёскі больш за дзесятак маладых дзецюкоў і дзяўчат адправіліся ў пошуках лепшай долі. Сярод іх тры сыны Фёдара Кратовіча, і два – Кандрата Шведа. Маладая пара пакідае сваю дзесяцігадовую Настачку на бабулю. Аднавяскоўцы так і называлі яе ўвесь час "ўнучкай".

Ваня нарадзіўся 10 кастрычніка, а ў пачатку снежня, неяк раніцою, заходзіць у хату суседка Аўдоцця Путырская з заклапочаным тварам і паведамляе наступную гісторыю. Учора вечарам позна да іх зайшла жанчына, звалі яе Вера. Яна несла перад сабой немаўля, закручанае ў нейкія лахманы. Вера парасіла ў Аўдоцці дазволу абагрэцца некалькі хвілін на печы. Гаспадыня дазволіла ёй застацца да самай раніцы. Раніцай Аўдоцця прачнулася ад плачу малога. Веры побач не было.

Мама загадала суседцы вярнуцца хуценька дадому і прынесці немаўля. Так у наш дом трапіла чужое двухтыднёвае дзіця. Маёй маме давялося карміць грудзьмі адначасова дваіх маленькіх дзяцей. Дзяўчынку ахрысцілі і далі імя Надзея.

Вельмі клапаціліся бацькі аднолькава як пра Ваню, так і пра Надзейку. Але радасць была нядоўгай. У жніўні дзеці захварэлі на дызентэрыю. Іх павезлі да доктара ў Ілью. Той прапісаў нейкую міктуру, аднолькавую для дваіх. Вані дапамагло, а Надзеі – не. Вельмі плакала мама, калі хавалі Надзейку.

**Леаніла Міцько (Папковіч), вёска Дварэц, Хаценчыцкі сельскі савет Вілейскага раёна.**

**Працяг будзе.**

КАЛЯНДАР

**30 жніўня** 1579 года. Пасля амаль месячнай аблогі маскоўскі гарнізон у Полацку капітуляваў перад войскамі Рэчы Паспалітай на чале са Стэфанам Баторыем.

***

**У 1929** годзе памёр беларускі паэт Паўлюк Трус. Выдаў некалькі зборнікаў вершаў, кнігу паэзіі для дзяцей "Падаюць сняжынкі".

***

**31 жніўня.** У 1939 годзе адбыўся ўяўны напад на нямецкую радыёстанцыю ў Глейвіцэ, які аб'яўлены прычынай да пачатку вайны Германіі з Польшчай, якая стала пачаткам Другой Сусветнай.

***

**1 верасня.** Дзень ведаў. Дзень беларускага пісьменства. Адзначаецца з 1994 года.

***

**1951 год.** У Лондане адчынілі першы супермаркет.

***

**2 верасня.** 40 год таму памёр брытанскі пісьменнік і мовазнаўца Джон Толкін, аўтар трохтомніка "Валадар пярсцёнка".

***

**3 верасня.** Дзень барацьбы з адзінотай.

***

**1927 год.** Першая ў гісторыі тэлефонная размова паміж Мінскам і Варшавай. Тады мяжа з Польшчай праходзіла зусім блізка ад беларускай сталіцы. А колькасць абанентаў тэлефоннай сувязі ў Мінску складала тысячу чалавек.

***

**1864 год.** З-за выбуху ў лабараторыі Альфрэда Нобеля падчас доследаў з нітрагліцэрынам загінула шэсць чалавек, у тым ліку малодшы брат навукоўца – Эміль. Праз тры гады Нобель атрымаў патэнт на дынаміт.

***

**4 верасня** 1928 года нарадзіўся вядомы беларускі археолаг Яраслаў Звяруга. Яго жыццё было звязанае з Мядзелем, Паставамі, Маладзечнам. Працаваў настаўнікам, дырэктарам Сваткаўскай школы, загадчыкам Мядзельскага РАЙАНА. Аб'ектам яго даследавання сталі жалезны век і Сярэднявечча Беларускага Панямоння, уключна з Павіллем і тэрыторыяй Мядзельшчыны. Вялікую ўвагу ён надзяляў даследаванням археалогіі Мядзельшчыны, вывучаў гарадзішчы каля Астраўлян, Баяр, Дзяніcава, Пярэгradзі, Слабады.

***

**154 гады** таму нарадзіўся Браніслаў Эпімах-Шыпіла, дзеяч беларускага нацыянальнага руху.

***

**5 верасня.** У 1951 годзе створаны Беларускі рэспубліканскі камітэт абароны міру (з 1987 года. Беларускі камітэт абароны міру).

**Падрыхтавалі Марыя БЕРАСНЕВА і Зоя ХРУЦКАЯ.**

НАМ ПІШУЦЬ

## Аднакласнікі



Фота gazeta.eot.su.

**МАЛАДЗЕЧНА. Калі ўспамінаю школу, то мяне заўсёды ахоплівае нейкае трапяткое хваляванне, лёгкае, светлае. І адразу наплываюць успаміны пра 1 верасня, наша расставанне са школай, якую скончыў ужо ў далёкім 1969 годзе, пра аднакласнікаў.**

На жаль, шмат каго з нашага выпуску ўжо няма з намі – адышлі ў іншы свет. Адразу пасля заканчэння школы, у жніўні, не стала нашага весяльчака і прыгажуна **Лёшы Пракопчыка**. Быў ён родам з адной з вёсак Валожынскага раёна. У тыя гады шмат вучняў Дубраўскай сярэдняй школы хадзілі адтуль, хаця школа адносілася да Маладзечанскага раёна.

Лёша прыйшоў да нас з Радашкавіцкай школы-інтэрната. Ён рана страціў маці. Але ніхто і ніколі не бачыў яго панурым. Быў добрым спартсменам. Душа класа. І вось трагічны выпадак.

Пасля школы Аляксей уладкаваўся на працу ў мясцовы калгас. Яму выдзелілі старэнькі трактар. І аднойчы на крутым павароце каля вёскі Новы Двор у тэхнікі ці то тармазы адказалі, ці то рулявое падвяло. Па праўдзе, і досведу кіравання ў хлопца было малавата.

Пра страшнае здарэнне нам паведаміла **Валя Чачко**, лепшая вучаніца, разумніца і выдатніца, якая пасля працавала начальнікам службы ў сталічнай мэрыі і часта давала інтэр'ю па тэлебачанні. Праўда, у яе цяпер іншае прозвішча, па мужу.

Тады гэта страта нас так узрушыла і засмуціла. Мы не хацелі верыць, што такое жудаснае і неверагоднае магло здарыцца з нашым аднакласнікам. Мы былі ўсе ахопленыя нейкім неверагодным пачуццём, што паступаў, хто на працу ўладкоўваўся. І здавалася, што смерці ўвогуле не можа быць. А тут такое!

А праз некалькі месяцаў, узімку, не стала яшчэ аднаго нашага хлопца, **Сяргея Таўпекі**, таксама з Валожынскага раёна, з Агароднікаў. Быў ён невысокага росту, непрыкметны, нічым, здаецца, і не выдзяляўся. Меў мянушку Гарчык.

У тыя гады амаль кожны з нас меў нейкую мянушку. Яго сябар, напрыклад, быў Бычок. Прычым перайшла гэта мянушка яму ад старэйшага брата.

Але аднойчы наш непрыкметны аднакласнік праявіў сябе на спаборніцтвах па бегу на 60 метраў, якія праходзілі ў школе. Яго можна было параўнаць з палётам ракеты. Фізрук не мог паверыць, думаў, што секундамер сапсаваўся, стаў параўноўваць свае паказанні з паказаннямі на секундамеры ў свайго памочніка. Вынік на ўзроўні дарослага разраду. Рэкорд школы.

Ён мог стаць выдатным спартсменам. Ды толькі зімой захварэў, не надаў гэтаму значэння. А калі ўсе спахапіліся – было позна.

Чамусьці з сумам успамінаецца і яшчэ адзін вучань. У нашай школе ў 60-70 гадах мінулага стагоддзя вучылася шмат вучняў з прозвішчамі Казлоўскі. І амаль усе яны валодалі выдатнымі галасамі, добра спявалі. А ў гэтага быў, як кажуць, голас з галасоў.

Заўважыў гэта яшчэ ў малодшых класах **Вячаслаў Васілевіч Міхасёнак**, настаўнік, які ў тыя часы вёў у школе спевы. Ён разгледзеў у гэтым вучню талент і хацеў дапамагчы яго развіццю. Некалькі разоў хадзіў да бацькоў хлопчыка, угаворваў, каб аддалі яго вучыцца ў школу-інтэрнат з музычным ухілам. Але не атрымаў ад бацькоў падтрымкі. Тым было не да таго.

Праз шмат гадоў аднакласнікі сустрэліся з гэтым хлопцам. Ён ад радасці, ад перапаўнення пачуццяў захацеў запець, як калісьці спяваў. Але ў яго нічога не атрымалася. Голас быў прапіваны, прапіты.

**Іосіф ПАЎКАЛАС, вёска Навасёлкі-1.**

# Дапамагчы ўратаваць ласосяў можаце і вы


Фота blog-ru.chavanga.com

Такіх ласосяў можна вылавіць у суседняй Літве, набыўшы спецыяльную ліцэнзію. Беларусі яшчэ трэба прайсці шлях да захавання гэтых рыб. Тады такія рыбіны змогуць з'явіцца і ў нас.

**АСТРАВЕЦ. У кастрычніку пачынаецца сезон нерасту ласасёвых. "РГ" раней пісала, што сітуацыя з ласасёвымі ў Беларусі няпростая: і ласось заплываць не хоча ў нашы рэкі, і бабрыныя плаціны перашкаджаюць руху рыбы, і браканьеры галаўнога болю дадаюць.**

Ці гатовыя сёлета ўлады і насельніцтва на Астравеччыне (ласось нерасціцца менавіта ў рэках, якія працякаюць па Астравецкім раёне) да гэтай падзеі?

– Вядома, з праблемай ласасёвых мы знаёмыя даўно. Улады і мясцовыя, і рэспубліканскія занепакоеныя гэтай тэмай, – распавядае начальнік Астравецкай раённай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя **Анатоль Цэйко.**

**– А якія канкрэтна мерапрыемствы вы праводзіце дзеля таго, каб ласосі заходзілі на нераст у нашы рэкі?**

– Па-першае, мы праводзім разборку бабровых плацін. Гэта яны асноўная пагроза ласосям, бо плаціны перашкаджаюць руху рыбы. Актыўна прыцягваем мясцовае насельніцтва. У гэтым нам вельмі дапамагае арганізацыя "Ахова птушак Бацькаўшчыны". Яна ў асноўным і ладзіць сустрэчы з мясцовым насельніцтвам, тлумачыць ім важнасць аховы ласасёвых.

**– І насельніцтва адгукаецца?**

– А як жа. У нас народ пільны. Колькі разоў паступалі паведамленні, што нешта падазронае робіцца на рэках. Напрыклад, перыядычна з'яўляюцца людзі з палаткамі ў тых месцах, дзе лоўля рыбы забаронена.

**– Браканьеры?**

– Не, за мінулы год не было ніводнага выпадку. Пра гэты год гаварыць яшчэ рана, таму што нераст пачнецца толькі ў кастрычніку-лістападзе.

**– Скажыце, ці павялічылася за мінулыя гады колькасць рыбін у папуляцыі?**

– На мінулым тыдні да нас прыязджалі іхтыёлагі з Мінска, яны вывучалі моладзь (рыбіны, якім год ці два). Вынікі праверкі мне яшчэ невядомыя. Так што завітайце да нас у лістападзе. На свае вочы ўсё пабачыце.

У Вілейскай міжраённай інспекцыі аховы прыроды нам адказалі, што праблема ласасёвых іх не датычыцца, таму што ў Вілейскім раёне гэта рыба не нерасціцца.

### "Будзем працягваць дапамагаць ласасёвым"

Праблемай нерасту ласасёвых на Беларусі заклапочаная арганізацыя "Ахова птушак Бацькаўшчыны". Менавіта па іх ініцыятыве да патрулявання рэк запрасілі валанцёраў, у Астравецкім раёне ўсталявалі стэнды з інфармацыяй пра тое, як важна захоўваць рэдкія віды рыб.

На пытанні карэспандэнта "РГ" адказвае каардынатар праекта "Захавальнікі жывых рэк: удзел грамадскасці ў захаванні дзікага балтыйскага ласося ў Беларусі і Літве" **Вольга Лукшыц**.

**– Ці будзе працягвацца праект сёлета?**

– Так, мы будзем працягваць працу дзеля захавання прахадных ласасёвых рыб у Беларусі. У межах новага праекта ад кааліцыі "Чыстая Балтыка" (Coalition Clean Baltic) мы плануем падрыхтаваць праект адукацыйнага цэнтра, прысвечаны ласасёвым рыбам.

Цяпер эксперты толькі прыступілі да распрацоўкі праекта, які мы плануем рэалізаваць на базе адной са школ Астравецкага раёна пры падтрымцы мясцовага аддзела адукацыі.

**– Якія вынікі далі леташнія мерапрыемствы?**

– Галоўнае, што мы змаглі правесці патруляванне на галоўных нераставых рэках цягам усяго сезона нерасту. Мы рабілі гэта сумесна з рыбалоўным клубам "Перакат".

Таксама падрыхтавалі вучэбную праграму: знялі відэафільм, распрацавалі метадычныя рэкамендацыі для настаўнікаў. Усе матэрыялы распаўсюдзілі сярод школ Астравецкага і Ашмянскага раёнаў.

**– Скажыце, ці былі зафіксаваныя выпадкі парушэнняў?**

– Нашы патруляванні не заканчваюцца толькі перыядам нерасту. З дапамогай нашых валанцёраў мы круглы год адсочваем рэкі.

Так, у ліпені прайшла міні-экспедыцыя "Аховы птушак Бацькаўшчыны" з турыстычнай кампаніяй "Зялёная каманда". Мы разам даследавалі раку Ашмянку.

У выніку выявілі парушэнне водаахоўнай зоны ў Смаргонскім раёне – там поле з кукурузай было ўзарана да зрэзу вады. Факт перадалі ў Смаргонскую інспекцыю аховы прыроды, і парушэнне там пацвердзілі.

**– Ці плануеце працягваць валанцёраў сёлета?**

– А як жа! Мы будзем працягваць патруляванне ласасёвых рэк, каб прадухіліць спробы браканьерства. Патруляванне пачнецца з сярэдзіны кастрычніка і будзе працягвацца да сярэдзіны снежня.

У нас ёсць каманда валанцёраў мінулых гадоў, дапамагаючы мясцовыя жыхары. Мы вельмі зацікаўленыя ў новых людзях, бо чалавечы рэсурс заўсёды абмежаваны, а хочацца надаваць увагу як мага большай колькасці малых рэк.

Калі вашы чытачы хочуць і могуць дапамагчы, запрашаем да супрацоўніцтва. Для гэтага толькі трэба звязацца з намі: **info@ptushki.org, 8017260613.**

**Наталля ТУР.**

## Ці ведаеце вы, што:

* Большасць ласосяў адкладваюць ікру адзін раз у жыцці

* Ласось ведае сваю радзіму, ён знаходзіць месца свайго нараджэння і прыплывае туды на нераст.

* Даўжыня рыбіны можа дасягаць 1,5 метра, а вага – 32 кілаграмы.

* Герб Астраўца упрыгожвае стронга, якая з'яўляецца сімвалам, звязаным з урадлівасцю, выкананнем жаданняў і справядлівасцю.

* Атлантычны ласось здольны ўчуць драпежніка па яго паху.

* Такіх відаў рыб, як ласось і стронга, няма ў навуковым асяродку – гэта зборныя назвы некалькіх відаў рыб. Навукоўцы выдзяляюць наступныя: сёмга, гарбуша, кета, чавыча, омуль і іншыя віды рыб.

■ **АЛЬТЭРНАТЫЎНАЯ ЭНЕРГЕТЫКА**

# Вецер дасць больш энергіі

**МЯДЗЕЛ. Трынаццаць год таму на Мядзельшчыне прымусілі вецер працаваць: ля вёскі Занарач з'явілася першая ветраэнергетычная ўстаноўка. Потым – яшчэ адна. А нядаўна тут узняўся трэці ветрак.**

Калі ён пачне працаваць і ў чым яго адметнасць? Пра гэта распыталі у дырэктара прадпрыемства "ЭкаДомБуд" **Юрыя Супрыновіча.**

**– Калі ветрак будзе ўведзены ў дзеянне?**

– Плануем да канца жніўня. Аб'ект ужо апрабавалі, афармляем неабходную дакументацыю, каб афіцыйна ўвесці ў эксплуатацыю. Будавалі ветраэнергетычную ўстаноўку разам з нямецкімі партнёрамі – дабрачыннай арганізацыяй "Дамы замест Чарнобыля". Дапамогу аказвала фірма "Wind&work", якая займаецца наладкай такога абсталявання. Інвестыцыйны праект ажыццяўляўся пры падтрымцы Мінаблвыканкама. Дарэчы, каб падняць абсталяванне, выкарыстоўвалі самы магутны ў Беларусі кран – з "Белкалія".

Будаўніцтва ажыццяўлялі дзеля пашырэння існуючых магутнасцяў. На поўдзень ад Занарачы працуюць дзве ўстаноўкі (першая ўведзена ў 2000 годзе, другая – у 2002). Яны штогод выпрацоўваюць 1,3-1,4 мільёна кілават-гадзін электраэнергіі. З уводам трэцяй плануем выпрацоўваць каля трох мільёнаў кілават-гадзін у год.

**– Чым адрозніваецца трэці ветрак ад папярэдніх?**

– Яго намінальная магутнасць нашмат большая: 1 мегават. Для параўнання: у першага было у чатыры разы менш – 250 кілават, у другога – 600 кілават. Другое істотнае адрозненне – большы дыяметр ветракола. А вышыня засталася прыблізна такая самая.

**– Што можаце сказаць па выніках працы першых двух ветракоў?**

– Тэхніка надзейная, працуюць добра. І паколькі ўмовы Мядзельскага рэгіёна спрыяюць размяшчэнню падобнага роду аб'ектаў, таму і вырашылі ўзводзіць трэцюю ветраэнергетычную ўстаноўку.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**


Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Трэці ветрак ля Занарачы.

■ **АКЦЫЯ**

# Ствары "зялёную" карту свайго горада!

**РЭГІЁН. Куды выкінуць сапсаваны манітор для камп'ютара ці мікрахвалёўку? Каму можна аддаць непатрэбнае адзенне і кнігі?**

З такімі пытаннямі ў паўсядзённым жыцці сутыкаецца амаль кожны чалавек.

Адказам становяцца спецыяльныя "зялёныя" карты, якія робяць валанцёры сумесна з эколагамі. На картах беларускіх гарадоў яны пазначаюць пункты прыёму другаснай сыравіны, а таксама ўтылізацыі нестандартнага смецця.

На мінулым тыдні карта з'явілася ў Магілёве – на ёй пазначана 68 "зялёных" пунктаў. Свае карты маюць таксама Гродна, Ліда, Мінск, Слонім, Полацк, Наваполацк і Брэст.

Карты робіцца своеасаблівым пасярэднікам паміж тымі, хто жадае правільна пазбавіцца ад смецця і адказнымі за гэта ўстановамі.

Па гарадах нашага рэгіёна такіх карт пакуль няма.

– Нашаму праекту нядаўна споўніўся год, і мы бачым вялікую цікавасць да "зялёных" карт, – кажа **Яўген Лабанаў**, дырэктар Цэнтра экалагічных рашэнняў. – Валанцёры ўжо стварылі і запусцілі спецыяльны дадатак для мабільных тэлефонаў з "зялёнымі" пунктамі гарадоў, які можна захаваць і ўсталяваць на свой тэлефон.

Далучыцца да справы можа кожны: ініцыятыву ахвотных чакаюць у мінскім Цэнтры экалагічных рашэнняў. Звяртацца можна па тэлефоне **8(017) 334-53-23** ці па электроннай пошце – **info@ecoidea.by.**

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

ВЕЛАВАНДРОЎКІ

# На роварах праз тры вобласці Беларусі

**МАЛАДЗЕЧНА. Вось яна, доўгачаканая раніца 12 жніўня. Ля турыстычнага клуба “Пілігрым” шматлюдна: тут сабраліся аматары веласіпедных падарожжаў самага рознага ўзросту.**



Фота забяспечана Сяргеям БЯЛКОВЫМ.

Майстар па рамонце ровараў Юрый Самсановіч падчас працы.

Сярод іх і навічкі, і тыя, хто ідзе ў паход ужо не першы раз.

Маршрут сёлетняй вандроўкі распрацаваў старшыня клуба **Сяргей Бялкоў**. Кожны год маршрут новы і вельмі цікавы.

Сёлета мы пачалі свой шлях з вёскі Заброддзе. Тут мы былі не ў першы раз. Але гістарычнае месца падзей Першай сусветнай вайны не перастае захапляць. На тэрыторыі вёскі рукамі сям'і Цітовічаў створаны музей. Высаджаны парк памяці, у цэнтры якога з 2000 года расце прыгажун-каштан нашага клуба “Пілігрым”. Да таго ж, прырода гэтых мясцін разам з рэчкай Нарачанкай вельмі жывапісная.

Далей нас сустракае Гродзенская вобласць. Мільгаюць адна за адной прыгожыя вёсачкі – Войстам, Вішнева.

Ехаць давялося па розных дарогах. Асфальтаваныя замяняліся гравейнымі, таму часам было цяжка. Але ніхто не скардзіўся, круцілі педалі насустрач сонцу і ветру.

### Пабывалі на гары ў форме арла

Вось зноў мы на Міншчыне. Уразіла невялікае падарожжа па гарадскім пасёлку Свір. Там у далёкім мінулым па загадзе Напалеона стварылі гару, якая мае форму арла з распраўленымі крыламі. Прыгожы краявід адкрываецца з гэтай гары на навакольныя мясціны.

Недалёка ад вёскі Альшэва, што на Мядзельшчыне, пабачылі у гушчары рэшткі былога маёнтка пана Людвіка Хамінскага. Маёнтак быў пабудаваны ў 1893 годзе. На жаль, цяпер пабудова разбураная.

### На шляху да Блакітных азёраў

А якой непралазнай сцежкай нам давялося прабірацца далей! Але хутка перад намі ўжо адкрылася водная прастора Блакітных азёраў.

Заказнік быў створаны ў 1972 годзе, а па плошчы ён займае 1500 гектараў. На тэрыторыі заказніка – больш за 20 азёр.

Пакінуўшы ровары і заплечнікі, мы пайшлі ў невялікі пешы паход у ваколіцах азёр Глубля, Глубелька, Мёртвае.

Далей на нашым шляху – Паставы. Тут мы наведалі палац Антонія Тызенгаўза, пабудаваны ў 1760 годзе. Цяпер тут месціцца гарадская бальніца.

У мясцовым краязнаўчым музеі пра Пастаўскі край нам распавёў экскурсавод **Уладзіслаў Шышко**.

### Па дарозе дамоў купаліся ў роднай Віліі

Падчас паходу мы жылі ў палатках, а ежу гатавалі на вогнішчы. Калі хто-небудзь каштаваў стравы, прыгатаваныя на вуголлі, то ведае, як гэта смачна. Асабліва калі за справу бярэцца **Маргарыта Собаль**. А **Міхаіл Бандура** спявае песні пад гітару.

Наступны прыпынак – вёска Стары Двор. Гэта родныя мясціны Сяргея Бялкова. Тут мы папарыліся ў лазні і пачаставаліся смачнымі яблыкамі.

Па дарозе да нацыянальнага парку “Нарачанскі” мы пабывалі ў вёсцы Лучай, а таксама на страўсінай ферме.

Далей ехалі праз Мядзел і Любань, і хутка апынуліся ля роднай Віліі. Стомленыя дарогай, мы адразу кінуліся ў рэчку.

**За ўвесь час вандроўкі мы праехалі 325 кіламетраў па Мінскай, Гродзенскай і Віцебскай абласцях.**

Усё гэта было б немагчыма без нашага веламайстра **Юрыя Самсановіча**. Неаднойчы ў дарозе ён выпраўляў паломкі ў роварах. І асобны дзякуй – кіраўніку Сяргею Бялкову. Цяпер мы ведаем, што ў велападарожжа можа пайсці кожны жадаючы.

**Антаніна АЛЯКСАНДРАВА, фармацэўт аптэкі №3.**

НАВІНЫ

## БАТЭ разграміў “Смаргонь”

**СМАРГОНЬ.** У 1/8 фіналу кубка Беларусі па футболе 25 жніўня футбольны клуб “Смаргонь” гуляў у гасцях з БАТЭ.

Футбалісты з Барысава забілі гол ужо на першай хвіліне, і першы тайм завяршыўся з лікам 4:0. У другім тайме ў вароты смаргонцаў залецела яшчэ тры галы. Канчатковы лік 7:0 на карысць БАТЭ.

Вось як, па інфармацыі сайта fc-smorgon.by, пракаментавалі гульню галоўныя трэнеры сапернікаў:

**Павел Бацюта** (“Смаргонь”): “ФК БАТЭ прапанаваў такія хуткасці, якія ў першай лізе мы не бачым. Таму наша каманда не справілася. Перамога БАТЭ сёння заслужаная, але сем мячоў, вядома, зашмат”.

**Віктар Ганчарэнка (БАТЭ)**: “У нас наадварот: галоўнае патрабаванне заключаецца ў тым, што мяч павінен перамяшчацца хутка. За кошт каманднай хуткасці мы павінны перамагаць саперніка, што, лічу, нам сёння ўдалося”.

**– Чаму вы не паспрабавалі сёння гульцоў з дубля?**

– Учора ў дублюючага саставу была адказная гульня, таму ўсе гульцы былі задзейнічаныя. Тым больш, што ў нас такія абойма і цыкл, якія патрабуюць, каб згулялі ўсе асноўныя гульцы.

## Атрымалі перамогі

**МАЛАДЗЕЧНА.** У суботу, 24 жніўня, у 16-м туры чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе “Маладзечна-ДЮСШ-4” выйграла у гасцях у досыць моцнага клуба “Клецк”. Лік сустрэчы 2:1.

“Забудова-2007” з Чысці дома выйграла ў клуба БСЗ (Бярэзінскі раён) 3:0.

“Маладзечна-ДЮСШ-4” займае другое месца ў турнірнай табліцы, аднак толькі на два ачкі адстае ад маладзечанцаў футбольны клуб “Узда”, які правеў на дзве гульні менш. “Забудова-2007” узнялася на 11-е месца.

## “Вілія” зноў прайграе 2:3

**ВІЛЕЙКА.** Як ў мінулым туры, ў матчы 16-га туру чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе “Вілія” прайграла з лікам 2:3. Цяпер віляйчане ў гасцях саступілі камандзе “Зорка-РФАЦ-Вікторыя”.

## Чарговы разгром ад “Буддэталяў”

**ВІЛЕЙКА.** Пачаліся гульні другога круга чэмпіянату раёна па футболе. Чарговую буйную перамогу 24 жніўня атрымала каманда "Буддэталі". У матчы са “Стралой" яе гульцы забілі 8 галоў, а прапусцілі адзін. “Фламетр” сыграў унічыю 2:2 з СВК “Чурлёны”. “Любань” не змагла сабраць склад на матч з камандай “Першы Беларускі”, і ёй залічана тэхнічная паражэнне 0:3, паведаміў старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футболу **Ігар Шабан**.

## Спартакіяда камунальнікаў

**МЯДЗЕЛ.** На турыстычнай стаянцы “Лагер” 24 жніўня адбылася спартакіяда Мядзельскай жыллёва-камунальнай гаспадаркі.

Удзельнічалі ў ёй пяць каманд. У праграме спаборніцтваў было узніманне гіры, дартс, спрынт, пераадольванне турыстычнай паласы перашкод, а таксама конкурсы насценных газет і “Візітоўка”.

Самымі спартыўнымі сярод камунальнікаў аказаліся прадстаўнікі філіяла “Прыазер'е”, на другім месцы – працаўнікі ўчастка водаканалізацыйнай гаспадаркі, на трэцім – каманда адміністрацыі.

**Аддзел інфармацыі.**

ФУТБОЛ

# “Маладзечна-2013” “АЛФ- 2007”. Нічыя: 2:2

**МАЛАДЗЕЧНА. У нядзелю, 25 жніўня, на гарадскім стадыёне адбыўся першы дамашні матч другога круга. Камандзе з Маладзечна супрацьстаяла сталічная каманда “АЛФ- 2007”.**

Нягледзячы на спрыяльнае надвор'е, аматараў на гэты раз на стадыёне было зусім мала. Тое ж можна сказаць і пра фанацкі сектар. Але атмасфера на полі з-за гэтага не стала менш напружанай.

Першы тайм паказаў, што каманда сапернікаў да гульні падрыхтаваная і так проста перамогу не аддасць.

У пацверджанне гэтых словаў, лік на 21 хвіліне матча адкрывае **Аляксей Цітоў**, гулец №18 з каманды “АЛФ-2007”.

Каманда “Маладзечна-2013” адказвае таксама ўдарам па варотах, але мяч трапляе ў штангу.

Другі тайм пачынаецца з замены ў камандзе Маладзечна. Замест **Аляксея Наталевіча** на поле выходзіць **Андрэй Шаблінскі**.

Гулец нашай каманды **Юры Бугай** у другім тайме больш знаходзіцца ў цэнтры поля. І карысць ад гэтага відавочная. На 70 хвіліне Юры перадае пас **Аляксандру Працкевічу**, і ў вароты каманды “АЛФ- 2007” трапляе першы мяч!

І ўжо на 83 хвіліне Юры Бугай сам забівае гол. Лік становіцца 2:1.

Да асноўнага часу гульні дадаюць тры хвіліны. За некалькі секунд да фінальнага свістка праз прыкрую памылку гульцоў з Маладзечна – мяч у нашых варотах.

Пасля гульні матч пракаментаваў галоўны трэнер клуба “Маладзечна-2013” **Дзяніс Мятліцкі**.

**– Дзяніс, вы задаволены гульнёй?**

– Гульнёй задаволены, апошняй хвілінай – не.

**– А што пайшло не так?**

– Памыліліся хлопцы, загуляліся, за што і паплаціліся.

**– Дзяніс, вы раней казалі, што трэніруеце каманду толькі метадам перніка, ніякіх кнутоў. Можа, надышоў час змяніць стыль кіраўніцтва?**

– Вядома, пасля сённяшняй гульні без “моцных” слоў у распранальні не абышлося, але ж усе дарослыя людзі, павінны самі разумець, дзеля чаго яны выходзяць на поле. Самае галоўнае, што хлопцы на мяне не крыўдзяцца.

**– Скажыце, хто з каманды вам падаецца наймацнейшым гульцом? На каго вашы спадзяванні?**

– У мяне ў камандзе ўсе хлопцы добрыя. Ускладаю надзеі на новых гульцоў: **Аляксея Ціхановіча**, **Аляксандра Філановіча**, Аляксандра Працкевіча. Амаль аднавіўся пасля траўмы **Дзяніс Жбанкоў**. Як вы бачылі сёння, яны актыўна гуляюць. А са сваіх магу пазначыць **Паўла Сумана**, капітана каманды, і Юрыя Бугая.

**– Сярод гледачоў я сёння бачыла Віталя Макрыцкага. Чаму ён не гуляе?**

– Думаю, што ён пакуль не гатовы гуляць.

Аддзін з заўзятараў гульні, які пажадаў застацца невядомым, пракаментаваў гульню так:

– Малюнак у каманды ёсць. І гульня таксама. А выніку засталося чакаць зусім надоўга. Так і запішыце!

**Наталля ТУР.**

## Камент-эксперт rh.by

Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420

**Колькі грошай вы гатовыя аддаць за кнігу?**

Любыя б грошы аддала, толькі каб дзіця чытала кнігу, а не малюнкі разглядвала. Дзяцей трэба з дзяцінства прывучаць любіць кнігі. На маю думку, усё залежыць ад саміх бацькоў. ***Кніга.***

**Затрыманы мужчына, які згвалціў непаўналетнюю дзяўчыну**

Жах. Ідзеш з працы ці на працу і не ведаеш, хто з табой побач. Менш такіх людзей павінна быць побач з намі. ***Спецыяліст.***

**Экспрэс-апытанне: Чым можа падабацца мыццё ў лазні?**

Як ваду адключаюць, то ўжо хоць у фантан лезь.) ***Брудная.***

**"РГ" узнагародзіла за лепшыя крычалкі**

Прыемна бачыць дарослага чалавека, зацікаўленага не толькі асабістымі праблемамі, сям'ёй, працай. Але і мае інтарэс і да іншых рэчаў у жыцці. Прымае актыўны ўдзел у мерапрыемствах, праяўляе крэатыўнасць. ***Галіна.***

**Вылецеў на тратуар, зачапіўшы святлафор. Жанчыну з немаўлём забрала "хуткая"**

Усім хутчэй паправіцца. ***Балельшчык.***

**У мужчыны з двара ўкралі машыну**

Абнаглелі ўшчэнт – з прыватных участкаў ужо уганяюць, трэба па перыметры участка камер навесіць, добра, што такое "задавальненне" цяпер недарагое. ***Пікачу.***

СПАБОРНІЦТВЫ

# Госці з 26 краін Еўропы едуць у Маладзечна

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад 28 да 31 жніўня горад сустракае спартсменаў з усёй Еўропы – менавіта ў гэтыя дні на стадыёне для пляжнага валейбола пройдзе Чэмпіянат Еўропы.**

Гэты від спорту новы для Беларусі. Арганізатары спадзяюцца, што спаборніцтвы такога ўзроўню прыцягнуць да яго ўвагу.

Старшыня Маладзечанскага райвыканкама **Аляксандр Яхнавец** адзначыў, што горад гатовы да міжнародных спаборніцтваў.

– Адзінае, чаго бракуе – гэта гасцініц, – дадаў ён. – Сёлета ўсе спартсмены жывуць у Маладзечне, а вось тыя, хто іх суправаджае, – часткова ў Вілейцы. Спадзяемся, што ў наступным годзе з'явіцца другая гасцініца і праблема будзе вырашаная. Ва ўсім іншым горад падрыхтаваны.

Дапамагаюць гасцям мясцовыя валанцёры.

– Дэлегацыю з кожнай краіны суправаджаюць па два валанцёры-перакладчыкі, – кажа **Міхал Шрымф**, намеснік начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму. – Гэта навучэнцы і студэнты нашых навучальных устаноў, усяго іх каля 60-і. Столькі ж валанцёраў дапамагае з абслугоўваннем матчаў.

Стадыён прыдатны таксама і для правядзення матчаў па пляжным футболе. Але сёлетні сезон ужо завяршаецца, таму футбол гледачы пабачаць толькі праз год.

Усе этапы спаборніцтваў праходзяць на стадыёне для пляжнага валейбола, што месціцца ў парку Перамогі. Уваход на іх вольны.

Матчы пройдуць у любое надвор'е, перанесці іх зможа хіба што навальніца, – адзначылі арганізатары.

### За Беларусь гуляе маладзечанка

Кожная каманда па пляжным валейболе складаецца з двух спартсменаў. Нашу краіну ў жаночых спаборніцтвах прадстаўляюць чатыры дзяўчыны. **Яна Мілеўская** прыехала з Мінска, **Настасся Казачэнка** – з Мінскай вобласці.

**Валерыя Бабенка** з Баранавічаў і маладзечанка **Вікторыя Шалаеўская** ўваходзяць у другую каманду.

Наша зямлячка Вікторыя вучыцца ў маладзечанскай СШ №2, сёлета скончыла дзевяты клас. Нягледзячы на тое, што дзяўчыне 15 гадоў, яна выступае ў чэмпіянаце 18-гадовых.

– Я займаюся валейболам ужо шэсць гадоў, трэніраваў мяне **Валерый Шумілаў**, – кажа спартсменка. – Сам ён з Лебедзева, але ездзіць на трэніроўкі ў Маладзечна. Мне больш даспадобы валейбол менавіта на пляжы, а не ў зале. Спадзяюся, што ў родным горадзе выступаць будзе лёгка. Да таго ж, на трыбунах будуць бацькі і сябры.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**




**Маладзечанка Вікторыя Шалаеўская (справа) і Валерыя Бабенка з Баранавічаў ужо выступалі сёлета разам на спаборніцтвах у Вільні. Цяпер яны прадстаўляюць Беларусь на Чэмпіянаце Еўропы.**

КОНКУРС

## Выйграй білет на матч "Смаргоні"!

**Сумесны конкурс "Рэгіянальнай газеты" і афіцыйнага сайта ФК "Смаргонь" працягваецца.**

Угадаць лік матча БАТЭ – "Смаргонь" не ўдалося нікому, аднак радуе, што ўдзельнікаў было больш. Некаторыя аптымістычна ставілі на перамогу "Смаргоні". Адна цуда не адбылося… БАТЭ выйграла 7:0, і такі лік матчу сапраўды складана было прадказаць.

Наступны матч "Смаргонь" правядзе 31 жніўня на выездзе супраць ФК "Слонім". Гэтая каманда займае 14-е месца з 16-ці ўдзельнікаў першай лігі.

Па традыцыі, ад вас патрабуецца прадказаць лік гульні "Слонім" – "Смаргонь" і назваць каманду, якая заб'е першай.

Ваш адказ можаце даслаць да 12 гадзін 31 жніўня (субота) праз SMS на нумар **8(044) 566-26-99** ці пакінуць у каментарах пад адпаведнай інфармацыяй на сайце rh.by або ў групе ФК "Смаргонь" "Вконтакте" ці праз асабістыя паведамленні карыстальніку **anrogach2009** на сайце **fc-smorgon.by.**

Укажыце ваша імя і нумар мабільнага ці адрас электроннай пошты – з тым, каб у выпадку выйгрышу вас можна было адшукаць.

Кожны, хто дашле правільны адказ, будзе ўзнагароджаны білетам на наступную дамашнюю гульню "Смаргоні".

Першы, хто дашле SMS з адказам, атрымае сувенір ад "Рэгіянальнай газеты". Мінулым разам першым даслаў SMS і выйграў прыз балельшчык, нумар тэлефона якога заканчваецца на 92.

**Аддзел інфармацыі.**

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 2 | | | | 8 |
| | | | | 9 | | 4 | 2 | |
| | 4 | 7 | | 1 | 6 | | | 9 |
| 9 | 2 | | | | | | 8 | |
| | 7 | 3 | | | | 6 | 4 | |
| | 6 | | | | | | 7 | 2 |
| 5 | | | 2 | 8 | | 1 | 9 | |
| | 1 | 2 | | 4 | | | | |
| 4 | | | | 6 | | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

РЭПЕРТУАР

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Фэнтэзі, трылер **"Расамаха. Бессмяротны"** 3D (ЗША, 2013, 2 серы, да 12 год прагляд у суправаджэнні бацькоў ці педагога)
30 жніўня – 16.00
31 жніўня – 13.30, 18.30
1 верасня – 13.30, 21.00
2-3 верасня – 18.30
4 верасня – 16.00. 21.00
5 верасня – 16.00
Кошт білета – 40 000/45 000 рублёў

Камедыя **"Мы – Мілеры"** (ЗША, 2013, для гледачоў пасля 16 год)
30 жніўня – 18.30, 21.00
31 жніўня – 16.00, 21.00
1 верасня – 16.00, 18.30
2-3 верасня – 21.00
4 верасня – 18.30
5 верасня – 18.30, 21.00
Кошт білета –35 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя **"Эрнэст і Селестына: Прыгоды мышкі і мядзведзя"** (Францыя)
30 жніўня – 17.30
31 жніўня – 15.30
1 верасня – 15.30
Кошт білета – 15 000 рублёў

Драма **"Адзін дзень"** (ЗША)
30 жніўня – 19.30, 21.30
31 жніўня – 17.30, 19.30, 21.30
1 верасня – 17.30, 19.30, 21.30
2 верасня – 21.30
3-4 верасня – 19.30, 21.30
5 верасня – 17.30, 19.30, 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў

Анімацыя **"Прыгоды рэактыўнага парсючка"** (Беларусь)
31 жніўня – 14.00
1 верасня – 14.00
Кошт білета – 15 000 рублёў

Тэл. для даведак: **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

ГАРАСКОП (30 ЖНІЎНЯ – 5 ВЕРАСНЯ)


**Авен.** Імпульсіўнасць можа разбурыць сямейную ідылію. Вас не будуць разумець блізкія людзі, таму многія могуць адвярнуцца. Усё наладзіцца, калі будзеце трымаць пачуцці ў сабе.


**Цялец.** Вы праяўляеце неўласцівую легкадумнасць. У іншай сітуацыі можна было б адпачыць, але цяпер ад вас чакаюць рашучасці, магчымасці хутка прымаць рашэнні.


**Блізняты.** Калі і складзецца цяжкая сітуацыя, якую самастойна вырашыць немагчыма, то на дапамогу прыйдуць сваякі, надзейныя сябры, калегі.


**Рак.** Вы нечакана заўважыце, што кола кантактаў звузілася. Адбудуцца нечаканыя падзеі, на асэнсаванне якіх спатрэбіцца некаторы час. Падарожжы будуць спрыяльнымі як для справы, так і для задавальнення.


**Леў.** Вы вельмі патрабавальныя да сябе і да іншых. Вашы адносіны да людзей не пакідаюць месца эмоцыям. Больш праяўляйце свае пачуцці.


**Дзева.** Інтуіцыя падкажа, як наладзіць адносіны з калегамі на рабоце. Каб было прасцей, папрасіце прабачэння за нанесеныя крыўды.


**Шалі.** Пахадзіце па крамах. Вы, напэўна, купіце сабе што-небудзь прыемнае. Удала складуцца новыя знаёмствы.


**Скарпіён.** Вы вельмі пагружаныя ў матэрыяльныя справы, складаеце планы на будучыню, але не рашаецеся іх увасобіць у жыццё. Гэты час спрыяльны для ажыццяўлення планаў.


**Стралец.** Сітуацыя будзе складвацца не так, як вы жадаеце. Дачакайцеся лепшага часу, і ўсё атрымаецца.


**Казярог.** Не трэба прымаць рашэнні, імкнуцца камусьці штосьці даказаць. Вам неабходна адпачываць і радавацца таму, што маеце. Для маладых і адзінокіх гэта спрыяльны час, калі можна завесці новае знаёмства.


**Вадалей.** Час вельмі спрыяльны для развіцця адносінаў, з'яўлення новых знаёмстваў. Будзьце эмацыйнымі і сяброўскімі. Гэта дапаможа вам знайсці доўгачаканае каханне.


**Рыбы.** У вас ёсць магчымасць рэалізаваць свае планы. Але не спяшайцеся, лёс зробіць усё сам, проста плывіце па цячэнні.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета

**Камент-эксперт**

erh.by

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

## НАДВОР'Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +10 / +18 | | +10 / +19 | | +14 / +16 | | +10 / +12 | |
| | 742 | ↘ 2 | 741 | → 2 | 742 | ↓ 7 | 737 | ↘ 9 |
| Вільня | +11 / +20 | | +12 / +19 | | +15 / +16 | | +10 / +13 | |
| | 754 | → 4 | 751 | ↗ 3 | 751 | ↙ 6 | 746 | ↗ 9 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, заход па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 6.19
Захад 20.05
Даўжыня дня 13.46

Усход 1.01
Захад 17.17
Квадра 4

**31 жніўня, субота**

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | +10 / +21 | 748 | ↗ 1 |
| Гродна | +14 / +21 | 749 | → 3 |
| Мінск | +10 / +19 | 741 | → 2 |
| Магілёў | +11 / +20 | 746 | ↖ 2 |
| Брэст | +12 / +23 | 749 | → 3 |
| Гомель | +14 / +15 | 748 | ↓ 4 |

## ПРЫКМЕТЫ

- 31 жніўня. Дзень пакутнікаў Флора і Лаўра – "конскае свята" ў землеробаў. Сяляне не працавалі ў гэты дзень на конях, не запрагалі, шанавалі іх. У некаторых мясцінах – прысвятак пастухоў.
- Пачынаюцца ранішнія прымаразкі-цеплякі.

## Чытайце праз тыдзень:

- **Маладзечна стала месцам правядзення Чэмпіянату Еўропы па пляжным валейболе і выходзіць на міжнародны ўзровень. Ці гатовы горад вітаць іншаземных турыстаў?**
- **Карэспандэнтка "РГ" разам з літоўскім госцем праверыла на ўласным досведзе, як адчувае сябе англамоўны турыст у нашым рэгіёне.**

## А ВЫ ВЕДАЕЦЕ, ШТО…

* Самая вялікая сям'я жыве ў Індыі: у Зіёна Чана 39 жонак, 94 дзіцяці.
* Пры яркім святле чалавек з'ядае нашмат менш, чым з тусклым асвятленнем.
* Глеба на тэрыторыі аднаго з французскіх вінаграднікаў настолькі каштоўная, што работнікі мусяць пачысціць абутак на выхадзе.



## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Колькі класаў варта вучыцца ў школе?

**Людміла Ляшковіч, студэнтка:**

– Мяркую, 11 класаў дастаткова для атрымання сярэдняй адукацыі. Болей не трэба. Але кожны чалавек сам вольны выбіраць, паступаць яму пасля 9-га ці пасля 11-га класа. Калі ўжо ў дзявятым вызначыўся з будучыняй, я лічу, можна час у школе не марнаваць.

**Святлана Кавалеўская, сакратар:**

– Я за 11 класаў. Так у вучняў будзе больш часу падрыхтавацца да цэнтралізаванага тэсціравання. А ў каледж ісці, калі будучая спецыяльнасць цесна звязаная з той, якую будзе набываць у ВНУ. Мая дачка вучыцца ў музкаледжы, але пазней, спадзяюся, будзе і кансерваторыя.

**Тамара Сіняўская, настаўніца хіміі:**

– Вядома, 11 класаў. Пасля дзявятага школьнікі яшчэ не могуць вызначыцца з тым, кім ім хочацца быць па жыцці. Вось і атрымоўваецца: куды мама за ручку прывядзе, там і вучацца. А потым якія яны? Лічу неабходным у школе ўвесці прадмет ці факультатыў "Мая будучая прафесія".

**Рэната Гілеўская, школьніца:**

– Думаю, гадоў восем дастаткова, а што паўтараць адно і тое ж? Але, мяркую, больш карысна было б ісці ў школу не ў шэсць гадоў, а ў восем. А то ў шэсць яшчэ з лялькамі гуляць хочацца.

**Дзяніс Вятчынкін, праграміст:**

– Я за 11 класаў. 17 год, калі заканчваюць 11 класаў, той самы ўзрост, калі можна самому прымаць рашэнні, куды далей пайсці вучыцца. Школьная праграма разлічана ж на 11 класаў. Я не стаў бы нічога змяняць. Вучыцца дык вучыцца.

**Максім Васільеў, трэнер па плаванні:**

– 10 і 11 клас – паўтарэнне вывучанага. Што не вывучыў за дзевяць гадоў, наўрад ці атрымаецца вывучыць за два. Таму я за дзевяць класаў. За тое, каб як мага хутчэй самому стаць на ногі, атрымаць прафесію і не клянчыць грошы ў бацькоў.

**Дар'я Чаўлытка, школьніца:**

– У 11 клас я пайшла б толькі дзеля выпускнога балю. Вельмі хочацца пабываць на ім. А так, дзевяці класаў дастаткова, каб пачаць вучыцца ў іншай установе.

**Падрыхтавала Наталля ТУР.**

Рэгіянальная газета

Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6100 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 35 (957) 30.08.2013.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 704. Падпісана ў друк у 10.00 29.08.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.